

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

5 ЛІПЕНЯ 2002г. № 26/4160 КОШТ 310 РУБ.







## Мая малітва

*Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,*
*Распетаю буду маліцца душой,*
*Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі*
*Ўжо больш не шалелі над роднай Зямлёй.*

*Я буду маліцца да яснага сонейка,*
*Няшчасных зімой саграваць сірацін,*
*Прыветна па збожных гуляючых гонейках,*
*Часцей заглядаці да цёмных хацін.*

*Я буду маліцца да хмараў з грымотамі,*
*Што дзіка над намі гуляюць не раз,*
*Каб жаль над гаротнымі мелі бяднотамі,*
*Градоў, перуноў не ссылалі падчас.*

*Я буду маліцца да нівы ўсёй сілаю,*
*Каб лепшаю ўродай плаціла за труд,*
*Збагаціла сельскую хату пахілую,*
*Надзеі збытымі убачыў наш люд.*

*Малюся я небу, зямлі і прастору,*
*Магутнаму Богу — Ўсясвету малюся,*
*Ва ўсякай прыгодзе, ва ўсякую пору*
*За родны народ Беларусі.*

Янка КУПАЛА



# КОЛА ДЗЁН

***3 ліпеня — Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Напярэдадні свята ў Палацы Рэспублікі адбылася ўрачыстасць, на якой выступіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. У сваім выступленні ён яшчэ раз пацвердзіў дзяржаўны курс на пабудову моцнай, незалежнай і квітнеючай Рэспублікі Беларусь.***

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

900 гадоў таму на беразе Бярэзіны князь Барыс Усяслававіч заснаваў горад і назваў яго сваім імем. У святкаванні юбілею Барысава прыняў удзел Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

### ПАДТРЫМКА ТЫДНЯ

Нашу краіну наведаў прэзідэнт Гандлёва-прамысловай палаты Расійскай Федэрацыі Яўген Прымакоў. Падчас дзелавых сустрэч, госць нашай краіны сказаў, што ён цалкам падтрымлівае пазіцыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, аб тым, што Саюзная дзяржава павінна ўяўляць сабой саюз суверэнных дзяржаў. Ні аб якім уваходжанні Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі не можа быць размовы, заявіў ён. А гэтак думаюць у нашай краіне амаль усе, бо за дзесяць гадоў незалежнасці толькі, відаць, ляніваму не хочацца жыць у сваёй краіне, сваім розумам і са сваёй працы! А ў нас, беларусаў, ёсць і свой розум, і залатыя працоўныя рукі, якія цаніліся і цэняцца ўва ўсім свеце...

### КЛОПАТ ТЫДНЯ

Завяршыла працу чацвёртая сесія Палаты прадстаўнікоў. На адным з апошніх пасяджэнняў пасля доўгіх спрэчак заканадаўцы адправілі на дапрацоўку праект закона "Аб абавязковым страхаванні прафесійнай дзейнасці", які прапаноўвалася адобрыць у першым чытанні. Законапраектам мяркуецца ахапіць абавязковым страхаваннем дзейнасць прыватных натарыусаў, антыкрызісных кіраўнікоў і часовых кіраўнікоў у справах аб банкруцтве, мытных агентаў і мытных перавозчыкаў, страхавых брокераў і т.д. Законапраект устанаўлівае памеры мінімальных кампенсацыйных выплат. Яны залежаць ад велічыні шкоды, нанесенай жыццю і здароўю людзей. Напрыклад, у выпадку смерці выгадаатрымальніка памер выплаты павінен быць не меншым за мінімальны памер страхавой сумы, у выпадку атрымання І групы інваліднасці — не менш чым 400 еўра, ІІ групы — 3750 еўра, ІІІ групы — 3000 еўра, пры атрыманні цялесных пашкоджанняў, якія не прывялі да інваліднасці — 750 еўра. Як бачым, наша грамадства паціху рухаецца да цывілізацыі...

### ВІЗІТ ТЫДНЯ

Прайшоў тыднёвы візіт у нашу краіну першага прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына. У час знаходжання ў Беларусі Барыс Ельцын правёў перамовы з Прэзідэнтам нашай краіны Аляксандрам Лукашэнкам. Разам з кіраўніком Беларусі высокі госць 22 чэрвеня, у гадавіну пачатку Вялікай Айчыннай вайны, наведаў мемарыяльны комплекс "Брэсцкая крэпасць — герой", дзе ўсклаў вянкі да Вечнага агню, наведаў музей і сустрэўся з ветэранамі. Некалькі дзён адпачынку Барыс Ельцын разам з жонкай правёў у рэзідэнцыі "Віскулі" ў Белавежскай пушчы. Цікава, як спалася і што снілася Барысу Мікалаевічу ў "Віскулях"?

### ФІНАЛ ТЫДНЯ

Закончыўся чэмпіянат свету па футболе, які праходзіў ў Японіі і Карэі. Чэмпіёнамі ў пяты раз стала каманда Бразіліі, якая ў фінальным матчы з лікам 2:0 выйграла ў Германіі. Матч за 3-яе месца паміж зборнымі Турцыі і Карэі намаганнямі Хукана Шукура і Ільхана Мансіза з лікам 3:2 выйграла каманда Турцыі. Героям XVII чэмпіянату стаў бразілец Ранальда, які ў вароты сапернікаў забіў 8 мячоў.

### ЗАВЯРШЭННЕ ТЫДНЯ

30 чэрвеня завяршыўся абмен нявыкарыстаных чэкаў "Маёмасць" на акцыі прыватызаваных прадпрыемстваў. Адным словам, хто не паспеў — той сам вінаваты, што не паспеў зрабіць тое, што мог зрабіць даўно... Аднак, ходзяць чуткі, што чэкавая прыватызацыя працягнецца яшчэ да 2005 года. Пажывём, паглядзім...

### ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ

Тры паўкаштоўныя камяні бярылу агульнай вагой 2395 каратаў вернуты на тэрыторыю нашай краіны з Бельгіі. Па ацэнках Дзяржаўнага мытнага камітэта, кошт камянёў перавышае 2,6 млн. долараў. Вяртанне берылаў у Беларусь адбылося ў выніку сумесных дзеянняў консульскага ўпраўлення МЗС і пасольства нашай краіны ў Бельгіі, а таксама бельгійскай паліцыі.

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу на пачатак 2002 года ў народнай гаспадарцы нашай краіны было занята 4 млн. 417,4 тыс. чалавек. Колькасць занятых у жыллёвакамунальнай гаспадарцы ўзрасла з 208,1 да 211,3 тыс., на транспарце — з 255,8 да 258,2 тыс., у ахове здароўя — з 269,9 да 272,8 тыс., будаўніцтве — з 312,3 да 317,5 тыс., адукацыі — з 463,7 да 472,1 тыс. чалавек. У той жа час колькасць працоўных у прамысловасці зменшылася з 1 млн. 226,7 тыс. да 1. млн. 212 тысяч, а ў сельскай гаспадарцы з 625,1 да 585,2 тыс. чалавек. І наогул колькасць працоўных у краіне зменшылася на 23,6 тысяч. А гэта яшчэ раз гаворыць пра тое, што беларуская нацыя старэе...

### ПАСЛУГІ ТЫДНЯ

"Мінская гарадская тэлефонная сетка" ўвяла новы від тэлефонных паслуг. Цяпер жыхары і госці сталіцы па нумары 091 змогуць атрымаць інфармацыю аб рэпертуары ўсіх мінскіх кінатэатраў, па нумары 092 — аб рабоце нашых дыскатэк, па 093 даведацца аб усіх магазінах, па нумары 094 аўтаінфарматар паведаміць гараскоп на тыдзень. Новы від паслуг будзе працаваць кругласутачна. Кошт 1 хвіліны — 22 рублі. З 27 ліпеня ліквідуецца даведка 09. Замест яе ўводзіцца бясплатная кругласутачная даведка аварыйных, выратавальных службаў і медустаноў на нумары 099. Як і раней ў Мінску будзе працаваць нумар 009, па якім знаходзіцца даведачная служба Мінскай гарадской тэлефоннай сеткі. Адна даведка каштуе 13 рублёў.

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Падрабязныя звесткі пра Саюз беларускіх пісьменнікаў, яго дзейнасць і мэты ў хуткім часе будуць змешчаны ў Даведніку еўрапейскіх прафесійных і навуковых таварыстваў. Шырокая сусветная грамадскасць, такім чынам, будзе мець магчымасць больш падрабязна пазнаёміцца з жыццём аднаго з найстарэйшых творчых саюзаў Беларусі.

•

Узнагароджанне пераможцаў і фіналістаў 8-й Усепольскай алімпіяды па беларускай мове адбылося днямі ў Доме дружбы. Ва ўрачыстым мерапрыемстве ўзялі ўдзел старшыня аргкамітэта прафесар Алесь Барскі, выкладчыкі польскіх школ, прадстаўнікі таварыства "Беларусь-Польшча" і Беларускага фонду культуры. Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава ўручыла пераможцам зборнік вершаў Я. Купалы, 120-годдзе якога адзначае сёлета сусветная супольнасць. Варта адзначыць таксама плённы ўдзел у арганізацыі і правядзенні свята, што ўжо зрабілася традыцыйным, камітэта па адукацыі і справах моладзі Мінгарвыканкама.

**М. Р.**

ІМПРЭЗЫ

# Італія не толькі ў снах?

Дзесяткі розных сюжэтаў (і не толькі з італьянскай гісторыі), увасобленых у музыцы такіх знаных італьянцаў, як Д. Вердзі, Д. Расіні, Д. Пучыні, Р. Леанкавала, трымае ў сваёй рэпертуарнай скарбонцы Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі. Ну, проста нейкая "музычная Італія!" Вось і да закрыцця сезона калектыў падрыхтаваў прэм'еру оперы Д. Пучыні "Багема". Твор, добра вядомы гэтай сцэне, набыў новае ўвасабленне: музычны кіраўнік і дырыжор А. Анісімаў, рэжысёр-пастаноўшчык Г. Ісаакян (Расія), мастак Л. Ганчарова, сярод выканаўцаў галоўных партый — В. Курбацкая, Т. Трацяк, С. Франкоўскі, У. Пятроў, І. Пеўзнер...

Але гэта была не апошняя імпрэза опернага сезона. 25 чэрвеня адбыўся гала-канцэрт, праграму якога склалі фрагменты твораў Д. Вердзі ў выкананні салістаў, хору і аркестра тэатра. Так вялікі творчы калектыў развітаўся са сваімі прыхільнікамі да восені.

Думаецца, артысты-музыканты цяпер і адпачыць могуць? Могуць, ды не ўсе. Лепшыя з іх ужо не першае лета выпраўляюцца ў творчую вандроўку. Як заўсёды, оперныя фестывалі ў Швейцарыі, у Германіі. А сёлета на гастрольным шляху з'явілася яшчэ адна краіна — Італія. Краіна, у якой опернае мастацтва шануюць, як нідзе, а Вердзі лічаць нацыянальным героем. Зрэшты, і на мінскіх афішах набярэцца добры дзесятак яго твораў.

Між тым, наступны сезон для нашага опернага калектыву — юбілейны. Сямідзесяты. Цікава, якімі нацыянальнымі рэпертуарнымі візітоўкамі "пахваліцца" Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі?

**Я. КАРЛІМА**

МУЗЫКА

# Магілёўская капэла: усё лепшае!

Сярод разнастайных музычных калектываў Магілёўшчыны вылучаецца унікальны прафесійны калектыў "Магілёўская гарадская капэла", у складзе якой — камерны хор і камерны аркестр. Мастацкі кіраўнік капэлы Сяргей Лішчэнка (вучань выдатных дырыжораў С. Казачкова ў кансерваторыі і Ф. Мансурава ў аспірантуры), стварыў гэтыя калектыў у класічных еўрапейскіх традыцыях.

Рэпертуар капэлы вызначаецца багатай і шматколернай палітрай сусветнай акадэмічнай музыкі. Гэта кантата "Gloria" А. Вівальдзі, "Магніфікат" Д. Букстэхудэ, клавірны Канцэрт рэ мінор І. С. Баха, Канцэрт для альта з аркестрам І. К. Баха, Імша соль мажор Ф. Шуберта, канцэрты для аркестра Я. Раэтса, Ф. Фаркаша, духоўная музыка С. Рахманінава, П. Чайкоўскага, Д. Бартнянскага, А. Ведзеля, арыгінальныя творы беларускіх кампазітараў — Г. Гарэлавай, А. Мдзівані, А. Туранкова, апрацоўкі народных беларускіх песень.

Высокая патрабавальнасць да харавой і аркестравай тэхнікі, старанная шліфоўка дэталяў, пранікненне ў асабліваcці стылю — усё гэта падпарадкоўваецца ў выкананні капэлы мастацкім задачам. Яны вырашаюцца так, што гэта заўсёды ўражвае як музычных знаўцаў, так і масавага слухача.

Сёння для многіх музычных калектываў і асобных выканаўцаў зрабілася магчымані выступленні за мяжой. Але заўсёдны поспех капэлы на гастролях у краінах Заходняй Еўропы — не галоўная мэта яго дзейнасці. Штодзённая праца музыкантаў накіравана на тое, каб несці музычную асвету і адукацыю жыхарам роднага горада, развіваць іх густ да мастацтва, якое ўзвышае чалавека, сілкуе яго духоўнасць, дапамагае разумець і спасцігаць сапраўдную прыгажосць і каштоўнасць творчасці сусветных геніяў і класічных узораў народнай музыкі. Менавіта таму ўвесь сезон 2001/2002 года капэла рэгулярна давала канцэрты ў розных аўдыторыях горада.

Двойчы — восенню і вясной — капэла прадставіла вялікія праграмы ў зале Магілёўскага абласнога драмтэатра, такім чынам, пасля доўгіх гадоў перапынку, адраджаючы традыцыю канцэртных выступленняў у гэтым старадаўнім будынку. Канцэрты тут, нягледзячы на высокі кошт білетаў, прайшлі з аншлагамі. Гараджане мелі магчымасць таксама слухаць капэлу ў Касцёле св. Станіслава, у зале Мастацкай галерэі імя П. Масленікава, у Гарадскім цэнтры адпачынку. У памяць былога саліста капэлы магілёўскага піяніста Д. Пятрова-Кумінская адбыліся два мемарыяльныя канцэрты — у МДУ імя А. Куляшова і Гімназіі-каледжы музыкі ды харэаграфіі.

Дырыжор капэлы Сяргей Лішчэнка слушна лічыць, што слухачоў класічнай музыкі неабходна рыхтаваць з юнага ўзросту, таму асаблівая ўвага надаецца дзецям і падлеткам. Для іх калектыў падрыхтаваў дзве тэматычныя праграмы ў форме лекцый-канцэртаў. Першая агледае гісторыю замежнай музыкі ад эпохі Адраджэння да нашага часу, другая прысвечана развіццю айчыннага музычнага мастацтва і прадстаўляе творы рускіх і беларускіх кампазітараў. Такія канцэрты паслухалі вучні музычных і некаторых агульнаадукацыйных школ горада.

"Магілёўская гарадская капэла" заканчвае свой чарговы сезон традыцыйным канцэртам у Касцёле св. Станіслава напярэдадні Міжнароднага фестывалю "Магутны Божа" і выступленнем на гэтым фестывалі. А ўвосені яна зноў запросіць сваіх слухачоў на сустрэчы з прыгожай музыкай.

**Вольга МАРОЗАВА,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

МЕРКАВАННЕ

# У чым прыцягальнасць оперы?

Прэм'ера оперы "Севільскі цырульнік" адбылася на сцэне Вялікага тэатра Беларусі яшчэ ў лютым 1986-га. Як заўсёды, на гэтым спектаклі і сёння шмат тых, хто добра ведае і любіць яго, і тых, хто толькі спасцігае опернае мастацтва, — дзеці, падлеткі, моладзь... Публіку прыцягвае камедыйная інтрыга лібрэта Ч. Стэрбіні паводле знакамітай п'есы П. Бамаршэ і, вядома ж, ярка ўвасобленая выдатная музыка Д. Расіні. (Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля М. Ізворска-Елізар'ева, мастак Л. Статланд.)

Вось і гэтым разам: выдатна граў аркестр пад кіраўніцтвам Льва Ляха, з натхненнем выступалі ўсе спевакі. Адметны вобраз Альмавівы стварыў Аляксандр Жукаў, абаяльным быў камічны персанаж А. Кеды — доктар Бартала, запомнілася какетлівая Разіна Алены Шведавай. Фігара Аляксандра Краснадубскага паказаў сябе вясёлым, знаходлівым хлопцам, дон Базіліё ў выкананні Васіля Кавальчука — мудрым жартаўніком.

Галоўнае, на маю думку, што асабліва прыцягвае тут публіку — усё яна разумее без перакладу: опера ідзе на рускай мове. І калі, напрыклад, дон Базіліё тлумачыць Бартала — маўляў, у графа Альмавівы ў кішэнях такія аргументы, што гэта пераконвае, — зала шматзначна ўсміхаецца.

Інакш успрымаецца публікай таксама папулярная опера — "Кармэн" Ж. Бізэ. Яна цяпер ідзе на мове арыгінала, прычым выконваецца другая рэдакцыя, у якой шмат рэчытатываў на незразумелай для многіх у зале мове — незразумелай, паводле прызнання саміх выканаўцаў, нават самім французам...

Наогул, на мінскай сцэне оперы замежных аўтараў ідуць на мове арыгінала. Гэта зрабілася традыцыяй — дзеля гастроляў тэатра за мяжой. Але ж свой глядач, слухач такую традыцыю не заўсёды ўспрымае, асабліва калі спектакль незнаёмы. Неяк я сама была сведкай, як людзі ішлі да мастацкага кіраўніка тэатра оперы са скаргай, што нічога не разумеюць. І гэта надзвычай прыкра, бо менавіта калі разумееш мову, дык кожная фраза, рэпліка дапамагаюць лепш зразумець не толькі сюжэт, а і змест, і сэнс твора. На адным паказе оперы Ж. Бізэ "Кармэн" я заўважыла маладую парачку, якая нават не было знаёма з сюжэтам твора П.Мерымэ "Кармэн". Французскую мову гэтыя гледачы не ведалі і таму марна імкнуліся зразумець змест.

Дарэчы, у самой Францыі оперныя спектаклі выконваюцца на сваёй нацыянальнай мове. Я нядаўна даведалася, што класічная опера П. Чайкоўскага "Яўгеній Анегін" там ідзе не на рускай мове, а па-французску. Наша оперная спявачка Тацця Варапай, якая стварыла на мінскай сцэне абаяльны вобраз пушкінскай Вольгі, выконвае цяпер гэтую партыю на опернай сцэне горада Бардо... па-французску.

На зразумелай усім нам рускай мове ў нядаўні савецкі час гучалі на мінскай сцэне амаль усе оперныя спектаклі, за выключэннем твораў беларускіх кампазітараў, якія выконваліся па-беларуску. А да Вялікай Айчыннай вайны, у 30-я — пачатку 40-х гадоў нават класічныя оперы выконваліся ў Мінску на беларускай мове!

На якой мове выконваюцца ў нас оперныя спектаклі — залежыць толькі ад кіраўніцтва тэатра. Ды галоўнае, каб публіка разумела. Бо для каго ж, як не для яе, працуе творчы калектыў?

**Вера КРОЗ**

ТЭАТР

# Прыгажуня Паўлінка Юліі Шпілеўскай

Па традыцыі кожны тэатральны сезон у Купалаўскім пачынаецца з "Паўлінкі". Сучасны спектакль мала чым змяніўся з 1944 года ў пастаноўцы заслужанага дзеяча мастацтваў БССР і Татарскай АССР Льва Літвінава. Праўда, некалькі гадоў таму ў "Паўлінку" ўнеслі некалькі істотных змен. Цяпер першая дзея пачынаецца з уступных слоў вядучага, а ўсе ролі вельмі добра размеркаваны па ўзроставых катэгорыях. Змянілася і апошняя сцэна спектакля, калі Паўлінка збягае з любым Якімам. Сёння камедыя заканчваецца ўжо без удзелу галоўнай герaіні.

Лепшая ўзнагарода для камедыі — гэта смех. А які ж смех, калі на парозе — сумнае (добра вядома, што ў фінале п'есы паведамляецца пра арышт Якіма Сарокі). Думаецца, што рэжысёр меў права ўнесці свае папраўкі ў канцоўку п'есы. Камедыя стала камедыяй. Мо ў гэтым і сакрэт неўміручасці "Паўлінкі"?!

Галоўную ролю Паўлінкі зараз выконваюць тры артысткі, выпускніцы Беларускай акадэміі мастацтваў Юлія Міхневіч, Юлія Шпілеўская і Святлана Зелянкоўская. Актрыса Ю. Шпілеўская адказала на пытанні карэспандэнта "ЛіМа".

**— "Паўлінка" — любімы спектакль многіх гледачоў. Як вы лічыце, чаму?**

— Калі не браць у разлік ідэалагічныя моманты, то сам сюжэт, адносіны людзей, стаўленне да багацця — усё гэта актуальна і ў наш час. Увогуле пакуль існуе сацыяльная разрозненасць, адносіны паміж мужчынам і жанчынай — п'еса будзе цікавіць. Акрамя гэтага "Паўлінка" — камедыя, а гумар — гэта вялікі дар.

**— Дарэчы, які фінал п'есы вам больш імпануе: трагічны ці камічны?**

— Несумненна, камічны фінал п'есы лепшы. У нашым жыцці і так шмат дрэннага, злога. Я думаю, гэта цудоўна, калі ў кожнага гледача пасля спектакля робіцца святлей на душы.

**— З якім пачуццём вы прымалі на сябе такую адказнасць — выконваць ролю Паўлінкі?**

— Вялікае хваляванне мяне апанавала, калі ладзілася прэм'ера спектакля. Дзякуй Богу, у гэты запамінальны дзень мяне падтрымала мая другая маці, педагог па вакальным спевам Валянціна Сяргееўна Пятліцкая. А пачалося ўсё з таго, што аднойчы мяне выклікалі на праслухоўванне, і ў выніку я стала Паўлінкай, якую іграю ўжо два гады.

**— Што вам падабаецца ў гэтым спектаклі?**

— Мне падабаецца, што трэба многа спяваць... Паўлінка — мая першая галоўная роля ў тэатры. І я лічу яе жыццёва важнай, яна дае мне вялікі штуршок для развіцця.

**— Ці ёсць права ў артыста ўносіць свае папраўкі ў спектакль?**

— Нездарма кажуць: "Калі спектакль добры — малайцы акцёры, калі кепскі — дрэнны рэжысёр". Я думаю, што артыст у першую чаргу павінен быць здольны утрымаць увагу гледача. Калі ж разглядаць стварэнне сцэнічнага твора з матэматычнага пункту гледжання, то і акцёры, і рэжысёр павінны прымаць у ім ўдзел, як кажуць, пяцьдзесят на пяцьдзесят.

**— Ці падабаецца вам, Юля, "служыць" у тэатры імя Я. Купалы?**

— Падабаецца. Гэта вельмі здорава працаваць з добрымі людзьмі.

**— Якія ролі вы б хацелі выканаць у будучым?**

— Мне вельмі падабаюцца характарныя ролі, героіні з багатым унутраным светам. Але не адмовілася б і ад удзелу ў мюзікле. Яшчэ калі вучылася ў акадэміі на чацвёртым курсе, я сыграла Мэры Попінс.

**— У жыцці вы такая ж самая, як на сцэне?**

— Не, жыццё — гэта жыццё, а тэатр — гэта тэатр. І я ніколі не змешваю гэтыя дзве розныя рэчы.

**— Што робіце, калі адчуваеце тугу?**

— У такія моманты я звычайна куплю сабе што-небудзь, пачынаючы ад шакаладу і заканчваючы кавалкам прыгожай тканіны. (У вольны час я люблю сабе што-небудзь пашыць.) Мне вельмі падабаецца мора і горы. У вады заўсёды адчуваеш лёгкасць і спакой.

**— Ці ёсць фільм, які б вы параілі паглядзець усім?**

— "Прыгажуня" з Джуліяй Робертс. І ўвогуле я заклікаю рэжысёраў здымаць толькі камедыі. Чым весялей, тым лепш...

**Кацярына САЗАНКОВА**
**студэнтка ІІ-га курса Беларускай акадэміі мастацтваў**



*На фотаздымку: у грымёрнай Купалаўскага тэатра*
*Фота аўтара*

# Пацалунак у дыяфрагму

З беларускім пісьменнікам Львом Сяргеевічам Караічавым я пазнаёмілася ўвосень 2000 года. Памятаю, Леў Сяргеевіч патэлефанаваў мне ў рэдакцыю, падзякаваў за артыкул пра Купалаўскі тэатр. Мы сустрэліся, пазнаёміліся, доўга гутарылі. З'явіліся допісы, пачало складвацца інтэрв'ю з пісьменнікам...

Л. Караічаў павіншаваў мяне ў навагодні вечар 2000 года. Пра тое, што беларускі пісьменнік пайшоў з жыцця пасля цяжкай хваробы я даведалася падчас ІІ Фестывалю нацыянальнай драматургіі імя В. Дуніна-Марцінкевіча увосень 2001года. Тады зашчаміла сэрца: пра гэтага чалавека ў мяне засталіся самыя добрыя ўспаміны. І вось цяпер, калі рэдакцыя рыхтавала нумар, прысвечаны Я. Купалу, я знайшла тыя свае нататкі двухгадовай даўніны. Меркаванне Л. Караічава пра "Паўлінку" ў Купалаўскім тэатры здавалася мне заўсёды слушным. Я ведала, што пісьменнік нават уцёк з бальніцы, каб паглядзець паабяцаны абноўлены спектакль...

— Але ўбачыў я не новы, нават не абноўлены, а стары спектакль. І ўражанняў ад яго — аніякіх, — расказваў Леў Сяргеевіч. — Уведзены тры новыя маладыя выканаўцы галоўных роляў, з'явіўся невялікі аркестр. Усё астатняе: афармленне, мізансцэны, нават дробныя дэталі — як было. Да прыкладу — як біў па тых лыжках некалькі разоў Пранцысь, так і б'е. (А лыжкі лётаюць, нехта з моладзі смяецца.) Як ляпаў Быкоўскі галёшамі, так і ляпае. На гэтым спектаклі былі і драматургі, і крытыкі, і шмат прыхільнікаў тэатра, бо хадзілі чуткі, што будзе новы спектакль. На жаль... Даруйце, але я згадаю цытату з уласнага эсэ. Першы раз я паглядзеў спектакль у школьныя гады, і ён мяне не ўсхваляваў. "А прычына аказалася ў рэжысёрскай трактоўцы, у звычайнай скажонасці тэксту п'есы і, як вынік, у адсутнасці інтрыгі. Без інтрыгі спектакль як з'ява мастацтва адбыцца не можа. Зламаўся стрыжань дзеяння і знік інтарэс гледача... У нашым выпадку процістаянне Паўлінкі і Якіма з яе бацькамі, са сваяком Пранцысем далёка не камедыйнае. Родзічы не могуць прыняць любага Паўлінкі, стаяць сцяной, ідуць на самыя нізкія, трагічныя ўчынкі, каб развесці маладую пару. Вось апошнія фразы Паўлінкі і рэмаркі аўтара: "Якімку арыштавалі! Маю зорачку ясную арыштавалі (Дзіка) -Ха-ха-ха! Звяры сляпыя!!! (Як сноп валіцца на зямлю. Мітусня. Крыкі: "Вады! Вады...)". Родным бацькам кінуць такое... Вось што яна кажа жонцы Пранцыся — Агаце: "Трэці год, цётачка, чакаем, і нічога не выходзіць. Трэці год трасуся: выглядаю той часінкі, каб толькі з ім пабачыцца. Павешуся, цётачка, павешуся, калі мяне з ім разлучаць". Тут не да смеху... Можна прадбачыць працяг падзей па-за межамі спектакля. Яны будуць драматычнымі для ўсіх персанажаў... А ў купалаўцаў фінал п'есы зусім перароблены. Шчаслівая Паўлінка весела ўцякае праз акно да Якіма. Як кажуць аматары кіно, "пацалунак у дыяфрагму". Уявіце перароблены шчаслівы фінал у "Атэла" ці "Ганне Карэнінай". Альбо радасныя Рамэо і Джульета пад канец весела танчаць тарантэлу... Гэта тэма асобнай сур'ёзнай гаворкі — ці можа, хто па сваім жаданні скажаць вядомыя літаратурныя творы. У нашым жа выпадку, лічу, гэта не дапушчальна. На маю думку, трэба стварыць не абноўлены варыянт, а ставіць новы, зусім новы спектакль... Бо тэатр — і нацыянальны, і акадэмічны, а "Паўлінка" — гэта болей чым спектакль, гэта ўжо знак, добры знак у нашым тэатральным мастацтве, у нашым культурным жыцці". Так я пісаў два гады таму. Дапускаю, што гэты спектакль задавальняе мастацкага кіраўніка тэатра, акцёраў, якія іграюць у ім, частку тэатральнай грамадскасці. Што ж. Ён будзе існаваць, не часта, і будуць аншлагі, п'еса ўваходзіць у школьныя праграмы. Але высокай з'явай мастацтва ён так і не стане. А мог бы...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

АБСЯГІ

БРЭСТЧЫНА...

## Ад вучэльні да акадэміі

Брэсцкая музычная вучэльня стала каледжам 10 гадоў назад (тады ж пачала насіць імя славутага земляка Рыгора Шырмы). Паступова вучэльня пераўтвараецца з сярэдняй навучальнай установы ў вышэйшую, умацоўваючы базу, павышаючы кваліфікацыю выкладчыкаў і пашыраючы свой профіль. Два гады таму тут адкрылася тэатральнае аддзяленне, якое рыхтуе артыстаў для драматычных, музычных, лялечных тэатраў і нават для кіно. Сёлета статус каледжа, а заадно і цікавасць абітурыентаў да яго, павысіць адкрыццё філіі Беларускай акадэміі музыкі. Удзельнічаць у конкурсе і працягваць вучобу ў філіі атрымаюць права не толькі выпускнікі каледжа, але і тыя, хто закончыў Баранавіцкую музычную вучэльню і Пінскую вучэльню мастацтваў. Па-ранейшаму выкладаць тут будуць лепшыя спецыялісты брэсцкай навучальнай установы, а куратарства бярэ на сябе акадэмічная прафесура.

## Не блытайце аўтара з Напалеонам

Кніжку "Палескі Напалеон", названую паводле аднайменнай гістарычнай п'есы пра свайго земляка Напалеона Орду, іванаўскі празаік Анатоль Крэйдзіч выпусціў у 2001 годзе. Аднак—без самой п'есы, бо рэдактары выдавецтва "Мастацкая літаратура" палічылі немэтазгодным далучаць да апавесці і апавяданняў драматургічны твор. Назву ж зборніка пакінулі, і аўтар апынуўся перад чытачамі ў няёмкім становішчы: ці не сябе ён узвысіў да Напалеона, дарма што палескага?..

Сёлета Крэйдзіч расставіў усё па сваіх месцах: у акцыянерным таварыстве "Брэсцкая друкарня" выдаў новую кніжку пад назваю "Параненыя мары", уключыўшы ў яе і п'есу пра слыннага мастака і музыку 19 стагоддзя—удзельніка нацыянальна-вызваленчага паўстання. Апрача гэтага твора, жанр якога абазначаны аўтарам як драматычны расповед, у зборнік уключаны апавяданні і мініяцюры, прасякнутыя элегічным настроем. Але і нязлосна пажартаваць аўтар умее. Асабліва ў прадмове, дзе згадвае камічную сітуацыю з ранейшай кнігай, а таксама ў мініяцюрах...Што да ўласнай славы, дык А. Крэйдзіч да яе абыякавы. Новую кніжку аформіў уласнаручна ды нідзе пра гэта не абмовіўся: раптам зноў падумаюць Бог ведае што. А дарма—графічныя малюнкі мастака-аматара даволі прыстойныя.

**Сымон АКСЕНІН**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Іх ведае Еўропа

Мастацкаму аддзяленню Гомельскай агульнаадукацыйнай школы №61 з тэатральна-мастацкім ухілам—10 гадоў. 250 вучняў займаюцца тут жывапісам, графікай, дызайнам, разьбой па дрэве. Творы гэтых знаёмы ў Беларусі, Расіі, Шатландыі, Вялікабрытаніі, Францыі, Германіі, Ізраілі, на Украіне.

З нагоды юбілею ў карціннай галерэі абласной арганізацыі, Саюза мастакоў адкрылася выстава школьніцкіх работ.

## Фотаздымкі з Мексікі

Гомельская карцінная галерэя Г. Вашчанкі пры падтрымцы Мексіканскай амбасады ў Маскве арганізавала выставу мексіканскіх фотамастакоў Карласа Кана, Карласа Ламаце і Мануэля Гансалеса. У кожнага—свой творчы почырк, сваё бачанне свету.

## Прыпяцкая паэзія

Пры Мазырскай газеце "Жыццё Палесся" амаль тры дзесяткі гадоў працуе літаратурнае аб'яднанне "Прыпяцкія хвалі". За гэты час на яе старонках выступалі дзесяткі таленавітых паэтаў і празаікаў. А зараз у Мазыры пабачыў свет калектыўны зборнік мясцовых паэтаў "Прыпяцкія хвалі". У ім—вершы І. Дзікавіцкага, В. Андрыеўскага, Г. Дашкевіч, А. Малюка...

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Шагалаўскія дні

Віцебск належным чынам падрыхтаваўся да 115-гадовага юбілею Марка Шагала. У мясцовым друку з'явілася праграма 12-ых Міжнародных Шагалаўскіх дзён, якія пройдуць 7-8 ліпеня. А 9-га Шагалаўскія дні "пераедуць" у Мінск, дзе адбудзецца ўрачыстае адкрыццё выставы "Марк Шагал. Пейзаж"... На мерапрыемства ў Віцебск прыедуць дэлегацыі амбасад Францыі і ЗША ў Беларусі, Нямецкага культурнага цэнтра імя Гётэ ў Мінску. Сярод гасцей—унучка мастака Мерэт Мейер-Грабер, ганаровы дырэктар Нацыянальнага музея "Біблейскае пасланне Марка Шагала" ў Ніцы Сільвія Фрэсцье, доктар Генрых Мандэль, які ў лютым падараваў Віцебску 1200 кніг аб мастацтве і мастаку.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Аўтографы ў падарунак

Сорак кніг беларускіх паэтаў і празаікаў з аўтографамі аўтараў падараваў Магілёўскаму бібліятэчнаму тэхнікуму былы яго выкладчык Віктар Арцемьеў. Гэта кнігі з аўтографамі Івана Шамякіна, Сяргея Грахоўскага, Міхася Скрыпкі, Эдуарда Валасевіча...

Акрамя гэтага Віктар Іванавіч перадаў установе і альбом "Слова пра кнігу і бібліятэку", у якім сабраны ксеракопіі занатаваных думак па азначанай тэматыцы. Сярод аўтараў—Р. Раждзественскі, Р. Казакова, А. Вазнясенскі, В. Быкаў, Р. Барадулін, Я.Брыль, А.Пысін, В. Карамазаў, В. Іпатава, Я. Янішчыц...

**Уладзімір БАРДЗІЛОЎСКІ**

*МІНШЧЫНА...*

## Песняр народных дум

З першага ліпеня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстава "Песняр народных дум і светлых спадзяванняў", прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы.

**Наш кар.**

## З любоўю да бацькаўшчыны

У Слуцкай бібліятэцы-філіяле №1 гарадской бібліятэчнай сістэмы сабраліся аматары творчасці Уладзіміра Арлова. Пісьменнік гаварыў аб уласнай творчасці, літаратурнай працы, гісторыі Бацькаўшчыны, адказаў на пытанні чытачоў, падараваў бібліятэцы ўласныя кніжкі "Адкуль наш род", "Сны імператара"...

**Галіна САСІНОВІЧ**

## Жыве рамантызм!

**Хтосьці нават ноты возьмецца вучыць, каб уласнаручна пагартаць-перайграць новы фартэпіянны зборнік!.. А калі сур'ёзна, дык той, чые пальцы больш-менш спрытна бегаюць па клавішах, узрадуецца гэтаму выданню, як доўгачаканаму падарунку і неабходнай рэчы. Бо ў рэпертуары піяністаў (аматараў, пачаткоўцаў, юных прафесійнікаў, студэнтаў, канцэртантаў) усё яшчэ бракуе твораў, якія прадстаўляюць айчынную музычную спадчыну, — напісаных у мінулыя стагоддзі ды толькі нядаўна вернутых у беларускую культуру, у сучаснае мастацкае жыццё.**

**"Фартэпіянная музыка Беларусі XIX стагоддзя" працягвае шэраг выданняў, каштоўных для развіцця нацыянальнай айчыннай педагогікі канцэртнай практыкі ды музыказнаўства, якія ажыццяўляе Беларуская акадэмія музыкі (яе Праблемная навукова-даследчая лабараторыя). Гэты рэпертуарны зборнік, складзены Вольгай Дадзіёмавай ды Уладзімірам Дулавым (ён жа зрабіў выканальніцкую рэдакцыю нотных тэкстаў і метадычныя заўвагі да іх), уключае ўзоры музыкі кампазітараў Беларусі эпохі рамантызму, якія з XIX стагоддзя, за малым выключэннем, у наш час не публікаваліся. Значная частка п'ес была прапанаваная для зборніка аб'яднаннем "Беларуская Капэла" і яе мастацкім кіраўніком Віктарам Скорабагатавым, за што ўкладальнікі новага выдання выказалі на яго старонках сваю шчырую ўдзячнасць.**

**Той жа, хто будзе карыстацца нотамі, безумоўна, шчыра падзякуе аўтарцы прадмовы — Вользе Дадзіёмавай за лаканічны і ёмісты каментар. У ім пазначаны вытокі асаблівай цікавасці да фартэпіяннай музыкі на Беларусі ў XIX ст. Тады гэты інструмент зрабіўся сапраўдным каралём канцэртнай эстрады і арыстакратычных салонаў Еўропы, а ў нас, дзе з-за вядомых гістарычных прычын ужо не маглі развівацца буйныя нацыянальныя сімфанічныя аркестры ці стацыянарныя оперна-балетныя калектывы, фартэпіяна было тыповым і ці не адзіным героем тутэйшага музычнага жыцця, хатніх салонаў, вечарын у сядзібах. Лепшыя ўзоры твораў для сямейнага, салоннага грання ўваходзілі і ў вучэбны, і ў канцэртны рэпертуар, набывалі шырокую вядомасць...**

**Амаль два дзесяткі твораў змяшчае новая ноткая кніжыца. (Звесткі пра іх аўтараў таксама пададзены ў прадмове В. Дадзіёмавай). Паланезы, мазуркі, вальсы... Некалькі твораў Міхала Клеафаса Агінскага ды яго дзяцей — Францішка Ксаверыя Агінскага, Амеліі Залускай; п'есы Юзафа Дашчынскага, Антона Абрамовіча, Фларыяна Міладоўскага, Андрэя Лістоўскага, Міхала Ельскага, Напалеона Орды. Ёсць, безумоўна, і музыка Станіслава Манюшкі, нават Арыя з курантамі — вядомы фрагмент оперы "Страшны двор".**

**Прадстаўленыя творы досыць разнастайныя паводле вобразна-эмацыйнага зместу і па ўзроўні тэхнічнай складанасці. Таму Міністэрства культуры Беларусі вызначыла зборнік як вучэбны дапаможнік для студэнтаў ВНУ ды навучэнцаў сярэдніх спецыяльных устаноў культуры і мастацтва. Да таго ж, гэта — сапраўдная хрэстаматыя па гісторыі беларускай музыкі.**

**Зацікавіліся?.. Аднак, не спяшайцеся ў нотную кнігарню. Наклад зборніка — 300 асобнікаў, таму прадаецца ён толькі ў адным пункце: у Праблемнай навукова-даследчай лабараторыі Беларускай акадэміі музыкі.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## "Беларуская думка", № 4

**Раздзел "Літаратура і жыццё" прадстаўлены вершамі З. Марозава і працягам "Ненапісанай аповесці" І. Пташнікава. Да 120-годдзя з дня нараджэння Я. Коласа прапануецца артыкул Т. Дасаевай "Асаблівасці лірызму ў ранняй прозе Якуба Коласа". В. Гуцаленка ("Так, як ніхто не даследаваў") рэцэнзуе кнігу В. Жураўлёва "У пошуку духоўных ідэалаў". 2 сакавіка 1982 года адкрыўся унікальны музей. Як гэта рабілася можна даведацца з матэрыялу М. Шэлехава "Бярэсце: дваццаць гадоў пасля". Г. Булыка ("Опера — мастацтва зорак") гутарыць з кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы, кампазітарам С. Картэсам. Субяседніца Т. Храпінай ("Чароўна, як у апошні раз") — народная артыстка Беларусі Г. Арлова. Гаворка пра яе мужа Яроменку-старэйшага і сына Яроменку-малодшага — выдатных акцёраў і цудоўных людзей. "У імя дзяцей" — выступленне старшыні праўлення Беларускага дзіцячага фонду У. Ліпскага. "Зямля і космас шаркоўшчынцаў" — роздум У. Сауліча. З артыкула У. Вялічкі і А. Марціновіча "Сэрцаў гарэнне — супраць духоўнага сталення" можна даведацца, чым жыве сёння Старадарожчына. В. Шырко ("Справа № 2772801" пра чорныя брыльянты") расказвае пра гісторыю, звязаную з адным крадзяжом.**

# Рэклама: мова, мараль...

***У межах падрыхтоўкі да Міжнароднага сімпозіума пад эгідай ЮНЕСКА "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі" ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы адбыўся "круглы стол" "Мова ў рэкламе". Абмяркоўваліся пытанні пераважна пісьменнасці ў рэкламе і мовы, на якой павінна рабіцца рэкламаванне тавараў і паслуг.***

Калі размова ідзе пра рэкламу, то натуральным будзе пытанне: што рэкламуецца і як рэкламуецца?

У дачыненні да мовы змест і форма — рэчы ўзаемазвязаныя, калі зыходзіць з разумення, што мова выконвае не толькі камунікатыўную функцыю, функцыю перадачы інфармацыі, але і адлюстроўвае цэлую светапоглядную, у т. л. і каштоўнасную сістэму. Элементарныя рэчы. Прызнаныя ва ўсім свеце. Як і тое, што па-за межамі нацыянальнай культуры чалавек (ды і ўсё грамадства) губляе жыццёвы імунітэт. Аптымізм, сілу, прагу жыцця чалавеку нясуць вера і веданне, што ён — частка вялікага цэлага, зладжанага і гарманічнага, з багатай гісторыяй. Апора на сілу традыцыі дазваляе захаваць пераемнасць апошняй, забяспечыць прамую перадачу назапашанай мудрасці ад бацькоў да дзяцей, каб пошук ідэалаў кожнага новага пакалення не пачынаўся спачатку, на пустым месцы. Гэта азначае, што без натуральнага моўнага асяродку і натуральнага культурнага кантэксту мы — непаўнацэнныя і неперспектыўныя. Таму рэклама, што з'яўляецца адным з асноўных сродкаў інфармацыі, у Беларусі павінна рабіцца па-беларуску і на літаратурнай беларускай мове. Добра было б да гэтага дадаць яшчэ і высакаякасныя тавары беларускіх вытворцаў ды паслугі на адпаведным узроўні.

Але ў дачыненні да рэкламы ёсць рэчы не менш важныя, чым праблемы нацыянальнай мовы і нацыянальнай культуры.

Сёння, ва ўмовах глабалізацыі, рэклама становіцца дзейснай сістэмай прапагандавання пэўнага ладу жыцця, жыццёвых стандартаў праз усю інфармацыйную прастору. Рэкламаванне набывае татальны характар, яно літаральна запаланяе сабою жыццёвую прастору праз розныя інфармацыйныя тэхналогіі. Дзе тут ужо аналізаваць, супастаўляць, ацэньваць, — верыць ці не верыць! Штампы, устаноўкі закладваюцца ў падсвядомасць чалавека, паралізуюць яго волю, творчыя здольнасці. Рэклама вядзе да ляноты мыслення, да спрашчэння ўсяго, да уніфікацыі, замбіруе чалавека, знішчае здольнасць да крытычнага аналізу не толькі ў пэўных сітуацыях, але і рэчаіснасці ў цэлым.

З кожным днём рэклама становіцца ўсё больш дакучлівай, агрэсіўнай. Часта не на карысць чалавеку, а на шкоду яму. Разам з тым, усё менш атрымліваем мы аб'ектыўнай інфармацыі і ў страшэннай штодзённай мітусні ўжо амаль не задаём сабе пытанне: ці правільна выбраны шлях, па якім імкнецца чалавецтва? Глабальныя праблемы, павелічэнне колькасці хвароб, няспынныя войны і катаклізмы сведчаць хутчэй пра адваротнае.

Рэклама ж часта нясе ілжэінфармацыю і навязвае стэрэатыпы, сваю сістэму каштоўнасцяў. Сёння "як смак LM аб'ядноўвае ўвесь свет", так і самыя бясспрэчныя агульначалавечыя "каштоўнасці" пасля дэмакратыі і індывідуалізму — бязмерная ЦЯГА ДА АСАЛОДЫ, ненасытнае СПАЖЫВЕЦТВА і агульная схільнасць да ЗЛА праз:

1. аб'ядзенне, на чым спекулюе рэклама вытанчаных страў;
2. блуд, на што абапіраецца прапаганда сексуальнай свабоды;
3. срэбралюбства, што выкарыстоўваецца пад прыкрыццём поспехаў у бізнесе для апраўдання падману, разліку і г.д.;
4. гнеў, як аснова "творчасці" баевікоў і фільмаў жахаў;
5. сум, як вынік адзіноты і страху ў сучасным цывілізаваным грамадстве;
6. упадніцтва, што даводзіць да наркаманіі, алкагалізму і самазабойства;
7. самалюбства, ад якога ідзе зайздрасць;
8. ганарыстасць праз самаўзвелічэнне сябе і абмежаванне іншых.

Такім чынам, рэкламаванне ўжо нават не парнаіндустрыі, алкаголю і інш., але ў цэлым — ладу жыцця ўсёдазволенасці і задавальнення сваіх інстынктаў замест устрымання, самаабмежавання і самавыхавання (калі жыццё трактуецца як пошук фізічнай асалоды, а чалавек — сродкам атрымання яе, і толькі) вядзе ўжо нават не да дэмаралізацыі грамадства, яго дэбілізацыі, але самазнішчэння чалавека і чалавецтва.

Як ні парадаксальна гэта гучыць, адна з самых важкіх прычын: супрацьпастаўленне сацыяльнай свабоды, лібералізму, заходніх стандартаў, да якіх усе так імкнуцца, — духоўнай свабодзе. Адбываецца гвалтоўнае раздваенне чалавека, на фізічнае і духоўнае.

Асабліва небяспечная такая сітуацыя для дзяцей, моладзі, у якой яшчэ не выпрацаваны імунітэт да цынізму, пошласці, да розных праяў масавай культуры, дзе прапагандуюцца забойствы, сексатэрарызм, наркаманія, культ сілы, калі пад увагу бярэцца толькі неабходнасць зважаць на мацнейшага. Такая агрэсія не можа выклікаць любові ці талерантнасці. Адсутнасць устаноўкі на добрае, прыгожае, вечнае, спароджаная размытасцю ідэалаў сучаснасці, робіць выхаваўчы працэс неэфектыўным, а то і немагчымым. Маладое пакаленне, такім чынам, уваходзіць у жыццё і адпаведна ў грамадства не праз развіццё, але праз прыгнячэнне сацыялагізацыі, не раскрываючы сваю самасвядомасць, не ўсведамляючы свой патэнцыял у грамадстве, не разумеючы сваю сілу з-за адсутнасці высокіх ідэалаў. Менавіта яны, грамадскія ідэалы, ставяць пытанне пра сэнс і глыбокі фундамент асабістага і грамадскага жыцця, абавязваюць, абуджаюць. Высокі ідэал, высакародная ідэя даюць чалавеку не толькі вялікую сілу вытрываць і здзейсніць дзеля іх многае, пераадолець сацыяльную апатыю праз актыўнае імкненне да ісціны, справядлівасці, парадку, але і надзяляюць нас разуменнем бязмежнасці гэтай сілы. Ідэалы захоўваюць чалавечую годнасць, без якой мы губляем самае важнае, жывяць альтруізм, бескарыслівасць, самаахвярнасць.Без мары, міфу, надзеі, жадання народ чакае дэградацыя...

Мае дзеці ходзяць у школу далекавата, — там, дзе ёсць беларускія класы. Я стамілася рэгулярна абыходзіць усе кіёскі, што размяшчаюцца па дарозе ў школу і назад, з просьбаю схаваць ці хаця б размясціць дзе вышэй, прабачце, ...прэзерватывы. На кожнай упакоўцы — адпаведная рэклама, да таго ж — вы заўважылі? — менавіта прэзерватывы месцяцца ніжэй за ўсе тавары, акурат там, дзе прапануюцца ласункі. Трэба дзецям малодшых класаў любавацца аголенымі красунямі ў адпаведных позах? Такая рэклама ёсць гвалтам над дзяцячымі душамі, здзекам над самой сутнасцю чалавека. У такім рэкламным кантэксце як выхаваць сумленнасць, спагаду, добразычлівасць?

Што б варта было рэкламаваць?

Устрыманне, цнатлівасць, бескарыснасць, цярплівасць і змірэнне, радасць, веру і надзею, сціпласць і самаадданасць. Але ж такая рэклама не прынясе эканамічнай выгады.Затое рэклама не тавараў, але высокадухоўных з'яў (прэзентацыі добрых кніг і г.д.) — як прыкладаў, узораў— можа спрыяць фарміраванню і ўмацаванню адпаведных грамадскіх ідэалаў.

РЭКЛАМА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ( ці нацыянальная рэклама), асабліва сёння, у сітуацыі сістэмнага крызісу, павінна мець тры асноўныя асаблівасці:

1. Рэклама высокадухоўнага;
2. Рэклама беларускага;
3. Рэклама па-беларуску.

Зразумела, што рэвалюцыі ў гэтай справе мы не зробім. Але ўсялякім практычным дзеянням павінна папярэднічаць думка, ідэя, тэарэтычнае асэнсаванне. І чым больш глыбокім, грунтоўным, аб'ектыўным яно будзе, тым больш карысці прынясе грамадству.

А ўвогуле, калі беларускае нацыянальнае будзе арыентавацца толькі на вузкі эканамічны разлік, чыста прагматычныя, недалёкія мэты, яно ў канчатковым выніку не пераможа. Бо сапраўды, паўсюль перамагаюць формы вышэйшай духоўнай актыўнасці. А будучыня заўсёды адпавядае ўчарашнім ідэалам.

**Любоў**
**УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК**

## ВІНШУЕМ!

***Алесь Клачкоў — сталы аўтар нашага штотыднёвіка. Ён доктар тэхнічных навук, працуе ў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі, надрукаваў каля 60 навуковых прац, здзейсніў шэраг навуковых распрацовак. Між тым Алесь Віктаравіч — аўтар паэтычных зборнікаў "Камін" і "Мікітавы прыгоды", Віншуем вучонага і паэта з 50-годдзем і прапануем чытачам ягоныя вершы з цыкла "Лісты з Рыма".***

Алесь КЛАЧКОЎ

# Лісты з Рыма

**Пліній Старэйшы** — старажытнарымскі пісьменнік, вучоны і дзяржаўны дзеяч. Дзядзька і прыёмны бацька Плінія Малодшага. Аўтар "Натуральнай гісторыі" ў 37 кнігах і іншых твораў. Да канца VIII ст. "Натуральная гісторыя" выкарыстоўвалася як крыніца ведаў аб прыродзе.

●

**Пліній Малодшы** — старажытнарымскі пісьменнік і дзяржаўны дзеяч. З твораў захаваліся 10 кніг, лістоў і ўхвальная прамова ў гонар Траяна ("Панегірык"). У лістах Плінія Малодшага вялікі гістарычны матэрыял, які характарызуе эканамічнае і палітычнае жыццё ў Рымскай імперыі I—II стагоддзяў, яе культуру і побыт.

### EST NATURA HOMINUM NOVITATIS AVIDA

*Чалавечая прырода жадае новага.*
**Пліній Старэйшы**

***Ведай, Пліній, на Зямлі без зменаў.***
***Ты шмат бачыў, а прадбачыў болей.***
***Вечны Горад час няпросты зведаў —***
***Для людзей не стала меней болю.***

***Выпаў снег, сцюдзёна ў наваколлі,***
***Што рабіць — няведама самому.***
***Ты сюды не вернешся ніколі.***
***Ці ўсё роўна хочацца дадому?***

### IN TUUM IPSIUS SINUM INSPICE

*Зазірні ў асабістую душу*
**Пліній Малодшы**

***Тут зіма — і, пэўна, з вечным снегам.***
***Цяжка, Пліній, дзе, скажы мне дзецца.***
***Сярод жахаў баранюся смехам —***
***І няўжо наш час жыццём завецца?***

***Як раней, чакаю лепшых зменаў,***
***Хоць і ясна бачу — ўсё дарэмна.***
***Кроў не рве ў напраўзе жылы венаў,***
***Побыт кожны дзень амаль турэмны.***

### QUOD DUBITAS, NE FECERIS

*У чым сумняваешся, таго не рабі.*
**Пліній Старэйшы**

***Ты пытаўся, Пліній, пра навіны?***
***Зоркі тыя ж. Часу ход бясконцы.***
***А астатняе — ад вытрымкі, бы віны:***
***У даўнейшых смаку больш і моцы.***

***Ўся гісторыя – як казка на патрэбу,***
***Ў ёй працяг без бачнага пачатку.***
***А над морам можна бачыць неба,***
***Сонцава блішчыць на ім пячатка.***

### AJUNT ENIM MULTUM LEGENDUM ESSE, NON MULTA

*Кажуць, што належыць чытаць шмат, але не шматлікае.*
**Пліній Малодшы**

***Напісаў ты шмат, а хто чытае?***
***Час не той — другія зараз людзі.***
***Дзякуй Богу, ёсць Зямля Святая,***
***Але й там не тыя, Пліній, суддзі.***

***Як жыццё направіць на выгоду,***
***Кожны з нас за многіх разумее.***
***Цэзар кажа байкі для народа.***
***Уратаваць душу сваю не ўмее.***

### EST DOLENDI MODUS, NON EST TIMENDI

*Для суму ёсць мяжа, для жаху — няма.*
**Пліній Малодшы**

***ЦІ існуе філасофскі камень,***
***Што дае адказы на пытанні?***
***У душы балюча лёд і пламя***
***Між сабой змагаюцца да рання.***

***Доўгі дзень — ў палацы асабліва.***
***З асалодай можна доўга думаць:***
***Вось яна, у белых кветках сліва.***
***Снег пялёсткаў, замяняе памяць!***

### MALE CUNSTA MINISTRAT IMPETUS

*Запал — дрэнны настаўнік.*
**Пліній Старэйшы**

***Доўгі час ты дамагаўся мэты***
***У жыцці і ўсіх яго праявах.***
***Можа, разумней жылі паэты.***
***Што ад хмелю падалі пад явар.***

***Раніцай лягчэй ім прачынацца —***
***Каб душа не надта так балела.***
***Як у гэты час жывым застацца?***
***Для пакут жыццёвых мала цела.***

*У некага запаветная мара – паехаць за мяжу: Італію, Германію Францыю... У мяне таксама ёсць такая мара, але мая "замежная краіна" – маё дзяцінства. Я люблю чытаць казкі да сённяшняга дня, хаця стала дарослай.*

*Магчыма, ужо з гэтай прычыны мне асабліва цікавая ў беларускай літаратуры творчасць Віктара Апанасавіча Казько. Таму што яго проза – пра чысціню ўзаемаадносінаў са светам, пра гаючую і аберагальную сілу дзяцінства. Словам, яна – для душы.*

*Даўно хацелася пагутарыць з самім пісьменнікам. Падчас працы над запісаным інтэрв'ю я адчула глыбіню і арыгінальнасць яго творчай думкі, сагрэтай пачуццём любові да чалавека.*

# "Гэта паэзія, якой не трэба ў нешта хавацца..."

**— Віктар Апанасавіч, у сучасным літаратуразнаўстве вашу творчасць успрымаюць як своеасаблівую "загадку". Таму я хацела задаць вам некалькі пытанняў пра вытокі, аснову, дзякуючы якой ствараецца міфалагічная проза.**

**На вашу думку, чаму ў сучаснай літаратуры адбываецца вяртанне да міфа і казкі?**

— Наш век такі, што без міфаў жыць немагчыма. Толькі сёння міфы нараджаюцца імкліва, амаль кожны дзень. А літаратура заўсёды звярталася да міфалогіі, гэта быў яе глыбінны пласт — пласт вясковай фалькларыстыкі. Беларусы ўвогуле, я лічу, вельмі схільныя да творчасці. Проста раней гэта не так распаўсюджвалася, як сёння, напрыклад, СМІ. Вырашэнне складаных праблем у сапраўднага пісьменніка адбываецца заўсёды на міфалагічнай аснове. Мне здаецца, без міфалагічнасці не існуе ні мысленне, ні творчасць. Нават тая літаратура, што не лічыцца сёння міфалагічнай, таксама ў нейкай ступені выцякае з міфалогіі. Але гэта міфалогія настолькі загавораная і разбаўленая, што такая літаратура хутчэй пабудавана ўжо на штампах, не на народнай аснове, не на літаратурнай нават, а на нейкай шызафрэнічнай. І яна проста забівае творчасць, а нас, гаворачы па-руску, "забалтывает". Яна забівае ўсякае мысленне. І, як следства, — нараджэнне псеўда — псеўдатворчасці. Літаратуры, у якой пануе праўда-хлусня, праўда-аднадзёнка, сенсацыйна-крывавага кшталту. У гэтай літаратуры табе жыць немагчыма, там месца табе не знаходзіцца — ні тваёй думцы, ні твайму тэмпераменту. У ёй так, нейкія ўсплёскі: мора крыві, забойствы... Канешне, напачатку яна была нейкім адкрыццём, чаму мы кінуліся да яе, цяпер не можам пазбавіцца. Але сёння гэта ўжо надакучыла. Ва ўсялякім выпадку, мне больш даспадобы менавіта міфалагічная літаратура, што на прытчы ствараецца, літаратура, якой ты пачынаеш жыць. Сёння ўжо больш цікава, менавіта цікава сапраўдная міфалагічнасць, філасафічнасць, імкненне задумацца, што ўласціва не толькі нашай беларускай літаратуры. Увогуле цяпер ужо не баяцца, а заклапочаны з'яўленнем рамана, дзе ёсць гэта прытчавасць. Таму ідуць пошукі рамана як рамана, твора як твора.

**— Значыць, задача міфалагічнай літаратуры сёння — вучыць чалавека цэласна, творча ўспрымаць жыццё, каб адрозніваць у ім сапраўдную міфалогію ад ілюзорнай. Сёння людзі больш рацыяналістычныя?..**

— Не, гэта не рацыяналістычнасць. Яны больш мітуслівыя. Рацыянальнае, так, існуе... Але, зноў жа — наша свядомасць пайшла на імгненні, яна разбіта, раздзёрта. Адну хвіліну мы такія, а ў другую мы ўжо іншыя. І часам нам толькі здаецца, што такія вялікія змены, быццам адно пакаленне жыве ну зусім па-іншаму, чым другое. А калі паглядзець, напрыклад, газеты мінулага стагоддзя, часопісы пагартаць — адны і тыя ж пытанні, праблемы. Тая ж акультнасць, і тая ж містыка — усё тое самае. Толькі на нас хлынула сёння вялізная хваля інфармацыі, і мы не заўсёды можам з яе выбрацца, тонем у гэтай хвалі. І шкодзіць яна нам, канешне, страшэнна, таму што большай часткай сенсацыйнасць бывае лжывая папросту. А мы пачынаем у гэта верыць. Праз дзень — абвяржэнне. Але мы яго ўжо не чуем, мы жывём ужо нейкімі лжывымі ісцінамі, ісцінамі імгненнымі, часовымі, якія **не у нас** саміх, а недзе пачуты; сваіх жа ісцін... Вось, напрыклад, па тэлебачанні гэты "Апошні герой" — дурасць надзвычайная! Гэтага "апошняга героя" ў лес вунь, як Рабінзона Крузо, без усяго пакінуць — ці застаўся б ён героем? Сам па сабе наўрад ці змог бы вытрываць у такім эксперыменце, у надзвычайнай сітуацыі — штодзённай, у працы — такой, калі прыходзіцца, як савецкаму чалавеку ўвесь час даводзілася, думаць пра тое, як выжыць, як не быць героем, а проста жыць. Таму што ўсё давалася з вялікімі і вялікімі цяжкасцямі.

**— Віктар Апанасавіч, многія героі вашых твораў валодаюць "унутраным зрокам" ці "трэцім вокам". Гэта найлепшыя спосабы пазнання сапраўдных ісцін, тых, што павінны быць у нас саміх?**

— Цяжка адназначна сцвярджаць, што азначае "трэцяе вока". Слухаць Сусвет? З Богам гаварыць? Адны кажуць, што яно было ў старажытнага чалавека на лбе, другія — на затылку. "Трэцяе вока" — гэта нейкае вока ў самім сабе. Успамінаю сваю бабулю. Запальвала печ, садзілася насупраць яе каля акна, глядзела... Я не думаю, што яна бачыла агонь. Вось як, напрыклад, дзеці. Глядзяць мультфільмы, бывае, спытаеш — пра што яны? Адкажуць невыразна: "А так... не ведаю..." У дарослых, старых людзей — гэта нейкі ўнутраны слых. Без яго чалавека не можа быць. Калі чалавек не здольны слухаць самога сябе, яму застаецца ўвесь час рабіць толькі рэвалюцыю, жыць інстынктам, пазвярынаму. І гэтым "унутраным зрокам" надзелены ў большай ступені менавіта беларусы, а не расіяне ці прыбалты. Пра нас гавораць: памяркоўныя, рахманыя, рабы... Але беларусы, перш чым зрабіць нешта, дзесяць разоў прыслухаюцца. Гэта вялікае шчасце, што беларусу не нададзена праснай сілы разбурэння, знішчэння народаў. Тое, што мы жывём цяпер у галечы, — гэта часовае. Таму што мы — глухое пакаленне, не даём сабе магчымасці слухаць сябе і другіх. Але мы праходзілі і праз больш складанае. Галоўнае, што мы застаёмся вернымі гістарычнаму прадвызначэнню, прадвызначэнню чалавека, нясём і захоўваем яго. Гэта і стварае нейкую міфалагічнасць, патаемнасць беларусаў. Наша патаемнасць — гэта звышслых, звышзрок. З іх нараджаецца нешта вялікае прыгожае, што тое, што не выплёскваецца. Беларус не хапаецца за сякеру, а потым каецца, як Раскольнікаў. Менавіта звышслых і звышзрок не дазваляюць беларусам быць раскольнікавымі.

**— Вы можаце сказаць, што як чалавек і як мастак успрымаеце свет міфалагічна?**

— Абсалютна міфалагічна. Міфалагічнасць мыслення — гэта прыроджанае, тое неадрыўнае, што складае чалавека.

**— Новае мастацкае адчуванне свету, што адлюстравана ў сённяшняй літаратуры, можа ў пісьменніка сфарміравацца пад уплывам чагосьці?**

— У чыстым выглядзе, я думаю, што не. У той ці іншай ступені гэта міфалагічнасць жыве ўсё роўна, мо не так рвецца на волю, не выказвае сябе да пары да часу. Але яна існуе, прысутнічае ў чалавеку на самым пачатку. І, канешне, яе можна развіць, пашырыць.

**— А што можа найперш паўплываць на тое, каб яна з'явілася ў больш разгорнутым выглядзе?**

— Багацце ўнутранага жыцця. Таму што калі няма ўнутранага жыцця, калі няма нейкай духоўнасці ў сабе, гэта глухне і забіваецца, як тая вось сёння па вясне града пустазеллем зарастае, зарастае і зарастае. А праца душы, праца думкі пашырае гэта нейкае лагічнае счапленне, і ўжо шасцяронкі, кажучы тэхнагенным мовай, пачынаюць круціцца: адно выклікае другое, думка нараджае нейкую новую думку.

**— Я зусім нядаўна пачала разумець, што творчасць пісьменніка заснавана не на свядомай апрацоўцы жыццёвага матэрыялу, як гэта доўга даводзілі. Мне здаецца, што свядомае, калі і ўдзельнічае ў творчым працэсе, то ў нявялікай ступені, а галоўную ролю выконвае ўсё ж падсвядомае ці несвядомае. Калі ласка, падзяліцеся сваімі думкамі.**

— Гэта і для мяне цікава. Свядомасць ставілі на першае месца матэрыялісты, марксісты, камуністы, але ў іх таксама было столькі падсвядомага і звярынага, ад чаго нам трэба сёння і яшчэ Бог яго ведае колькі часу, каб пазбавіцца. Несумненна, у чалавека існуе генная памяць, памяць таго, чым займаліся нашы продкі, як яны жылі. Калі маленькі хлопчык пачынае калупаць з печы гліну, ён пачынае адчуваць падсвядома, што не хапае кальцыю. І ніякая свядомасць, ніякі марксізм-камунізм яму не забароніць гэтым займацца, таму што арганізму, я сказаў бы, мо, нават душы гэта трэба. Што да мяне, канешне ж, усё гэта недзе падсвядомае. А пачынаў з тых "універсітэтаў", якія маё пакаленне праходзіла, і раней за ўсё — на печы, слухаючы гаворку бабуль, дзядоў. Дзяды менш збіраліся, а бабулі сыходзіліся і кудзелю прасці, і кросны ставіць. І калі пачыналі гаварыць, то рэдка якому пісьменніку сёння так напісаць, як гэта было.

**— Тое, што чулі ў дзяцінстве, — гэта казкі, нейкія міфалагічныя апавяданні?**

— Не, казкі мы расказвалі адно аднаму, бо ў нас амаль што ні ў кога не было Арыны Радзівонаўны, мы падалі і засыналі без казак. Гэта — тое, чаму адмаўляла ўлада і чым жыла вёска, адлюстраванне недзе таго часу, але нейкіх сваіх прыгодаў, жахлівых, мо неўсвядомленых нават. Яно ўзнікала, канешне, на тых рэаліях, якія трымалі вёску, — могілкі, рэчка, лес... Гэта ўвасаблялася ў надзвычайных, вельмі цікавых і страшэнных гісторыях. Творчасць нараджалася з жахлівых тых "хапуноў" кэдэбэшных, з бязглуздзіцы ўлады, з бездапаможнасці перад ёй. Яна засноўвалася на чутках, на няпэўнай нейкай трывозе, была і абаронай нейкай таксама, неасэнсаваным пратэстам. Анекдоты, міфы таго часу ўражваюць больш, чым напісаны пра яго раманы, бо здарэнне, плётка так неслі канцэнтравана ў сабе час, што ў кожнай прыпеўцы ці іншым перайначанні быў амаль што раман. З вусных апавяданняў старых з'явілася аповесць "Высакосны год". Яна — і сум, і развітанне з той печчу, дзе слухалася ўсё. Настрой, метраном гэтага твора зададзены менавіта тым часам. І вось так, апасродкавана, яно амаль што ва ўсім. Напрыклад, "Нахаў" амаль цалкам пабудаваны на споведзі адной жанчыны, якая расказвала пра Чарнобыль: як ішла гэтая навала, як яе ўспрымалі вясковыя людзі. Сказаць, што карыстаўся нейкімі крыніцамі ці збіраў спецыяльна матэрыял — не, такога не было. Дастаткова было недзе фразы, недзе незнарок вымаўленага слоўка, каб свядомасць чаплялася за гэта, і пачынала ўзнікаць думка за думкай...

**— Віктар Апанасавіч, так пачыналася знаёмства з фальклорам і міфамі. А сёння яно працягваецца? Вы чытаеце нейкую спецыяльную, навуковую ці культуралагічную літаратуру?**

— Я ўвогуле ўсё жыццё страшна не любіў чытаць спецыяльна, каб нешта засвоіць. Чытаў толькі тое, што было даспадобы. Чытаў, але не люблю і Юнга, і Фрэйда, Карнегі... Усё гэта заснавана, як кажуць, "на здравом смысле". У некаторых сучасных міфах-гіпотэзах ёсць пэўныя думкі. У прыватнасці, адзін з апошніх: малпа — не пабочны прадукт цывілізацыі, а галоўны, прадукт выраджэння чалавецтва. Яна — наша будучае, да якога мы ідзём, не даючы веры самім сабе, не давяраючы сабе. І таму сёння такая колькасць спекулятыўных гіпотэз: пра светапабудову, адкуль і як мы з'явіліся. Такое, канешне, цікава і будзе цікавіць усіх і кожнага, хто думае пра гэта, не спіць у шапку, хто хоча нешта ведаць, нешта чуць. І перш-наперш — зразумець самога сябе. Але ў кожнага свой сэнс жыцця, і без гэтага свайго сэнсу няма ні чалавека, ні жыцця. Знайсці гэта з дапамогай кніжных парад-прапаведзей — немагчыма.

**— Хто з пісьменнікаў-"міфолагаў" падабаецца вам найбольш, блізкі па поглядах на жыццё ці па духоўнай роднасці?**

— Самая цікавая для мяне "міфалогія свядомасці" паводле Дастаеўскага, Талстога, Маркеса, Карпенцьера, Вульфу, Булгакава. Наша існуе па Брылю, па Гарэцкаму. Калумбіец Маркес — гэта было адкрыццё, як адкрыццём быў ён і для ўсяго былога Савецкага Саюза. Яго проза выклікае такі рухомы стан душы, калі ты пачынаеш суперажываць і толькі з цягам часу адразаеш сябе ад таго, што прачытаў, адыходзіш і ўжо больш крытычна ставішся да прачытанага. Мы не прывыклі да такой літаратуры, датыкаліся да яе толькі праз Гогаля. Ад нас столькі часу хавалі таго ж Булгакава. А ў Беларусі і Баршчэўскі быў невядомы. Ян Баршчэўскі заставаўся за такой брамай, што мы не ўгледзелі і самі, як мы яго пасля смерці яшчэ раз пахавалі. Пахавалі, і цяпер вяртанне яго вельмі цяжкае, таму што перамянілася шмат чаго. Кожны павінен прыходзіць усё ў свой час, а мы спазніліся набагата, чаму нас і папракаюць усё, што такія бедныя. Мы спазніліся ўвогуле адкрыць сваю літаратуру, прачытаць самі сябе. Мы спазніліся як след прачытаць таго ж Чорнага, а пра Гарэцкага і іншых ужо і гаварыць няма чаго.

**— Чым прыцягваюць мастацкія формы казкі і міфа асабіста вас, у чым іх паэзія, прыгажосць?**

— Калі проста гаварыць, — у дзіцячай наіўнасці. У вялікім дзіцячым наіве, што здаецца, тое ж самае здолееш і ты зрабіць, і можаш такім быць. У міфе, асабліва ў казцы ўсё проста: сеў на печ і пайшоў шпарыць да ракі... Яна дазваляе сябе адчуваць самім сабой, што не проста сёння. У міфе гэта ўвасоблена больш складана, больш высока, больш для сталага чалавека, а ў казцы — і для старога, і для малога, для дарослага і дзіцяці. Яны даюць магчымасць вярнуцца ў дзяцінства. А галоўнае, міф — сапраўдная, ненадуманая, неалітаратураная паэзія. Гэта паэзія, якой не трэба ў нешта хавацца, апранацца ў нейкае адзенне, таму што яна ўжо апрабіраваная, ужо перажыла, выжыла і выпрабаванне часам прайшла.

**— Міфалагічнае ўспрыманне свету заснаванае на інтуіцыі. У вас добрая інтуіцыя? Былі ў жыцці выпадкі, калі яна спрыяла, выратоўвала?**

— Не адзін раз. Дзякуючы ёй, я прайшоў праз дзесяткі смярцей. Пачынаючы ад дзяцінства: бязглуздзіца недзе даводзіла да смерці, а інтуіцыя спрацоўвала. Задумаў малы толу вытапіць з міны. Распаліў агонь, кінуў... Нешта доўга не рвецца... Пабег паглядзець, што там такое. Гляджу: з нямецкай міны калок чорны выперла. Тол расплаўлены выцякае. Яна на мяне так вось павернута. Я за палку і па ёй, адштурхнуў. Яна паднялася, пырх, і пайшла. Калі б не павярнуў, яна б на мяне, а так — у пень. У пень рванула, вогнішча гэта ўсё на мяне...

У мяне непадзельна гэта ад Лёсу, Наканаванасці, і без інтуіцыі не мог бы быць. Гэта я назваў бы нават, можа, не інтуіцыяй, мо, адно — нейкае імгненнае прасвятленне, а другое — вопыт жыццёвы, які падказвае ў патрэбную хвіліну.

*Творчасць В. Казько канцэнтруе ў сабе мінулы і сучасны мастацкі вопыт у распрацоўцы традыцыі літаратурнай міфалагізацыі і прадвызначае адзін з перспектыўных накірункаў развіцця беларускай прозы. Думаю, што павінна з'явіцца яшчэ не адно інтэрв'ю з гэтым цікавым пісьменнікам пра яго міфатворчасць. Таму хочацца шчыра пажадаць мастаку слова здароўя, і каб і надалей берагла яго інтуіцыя і Лёс.*

**Гутарыла**
**Галіна ДРУК**

## Букет паэтычны

**11 кастрычніка 2001 г. у БДУ культуры была створана творчая суполка "БУКет", якая аб'яднала студэнтаў і выкладчыкаў універсітэта. Ва ўтульная атмасферы, за кубкам гарбаты, пры святле свечак маладыя паэты, празаікі, мастакі і музыкі чытаюць вершы, апавяданні, спяваюць песні.**

**Нядаўна букетаўцы выдалі свой першы літаратурна-мастацкі зборнік, які так і завецца "БУКет". У ім змешчаны вершы, апавяданні і малюнкі як пастаянных сяброў суполкі, так і гасцей. Каля твораў можна пабачыць фотаздымкі аўтараў.**

**Вершы і апавяданні кранаюць сваёй непасрэднасцю, рамантызмам, захапляюць першаадкрыццём. І вельмі здзіўляе тое, што такія маладыя людзі, якія толькі-толькі ўваходзяць ў сталае жыццё, пішуць пра складаныя жыццёвыя працэсы. Прычым пішуць па-беларуску, знаходзячы трапныя і сакавітыя словы і выразы.**

**Аўтары пішуць у самых розных накірунках. Напрыклад, большасць твораў Наташы Смерцевай напісана ў рамантычным стылі:**

*Гэты снег нагадаў мне ноч,*
*Срэбны позірк далёкіх зорак.*
*Гэты снег нагадаў мне дождж,*
*Светла-шэры, як летні золак.*

**Алегу Алексу больш падабаецца постмадэрнізм:**

*Ён чуў свята.*
*Ніхто не мог зразумець, як.*
*Таму яго баяліся,*
*Як баяцца ўсяго невядомага,*
*Незразумелага, дзіўнага...*

**А вось Каця Сідарук абрала для сваіх апавяданняў жанр філасофскай прозы: "Казка пра агонь", "Пустэча".**

**Сярод гасцей суполкі ёсць не толькі студэнты, але школьнікі і выкладчыкі так, Саша Казлова вучыцца ў гімназіі, піша добрыя вершы і бывае на ўсіх сустрэчах у паэтычнай гасцёўні. Ігар Клімаў — выкладчык беларускай мовы ў БДУ культуры, выступае ў зборніку як пісьменнік-постмадэрніст.**

**17 мая 2002 г. праходзіла адкрытае пасяджэнне творчай суполкі, на якім адбылася прэзентацыя зборніка. На вечарыне панаваў святочны настрой, букетаўцы чыталі свае вершы і апавяданні, спявалі песні.**

**Плануецца выданне новых зборнікаў, правядзенне творчых вечарын і сустрэч з вядомымі беларускімі паэтамі і празаікамі.**

**Калектыў суполкі чакае новых сяброў і гасцей з верасня кожны чацвер.**

**Вольга ШУНЕЙКА**

## "Залатая табакерка" едзе ў Германію

**Калі скончыўся Міжнародны тэатральны фестываль "Белая вежа-2001", на якім спектакль Брэсцкага тэатра лялек "Залатая табакерка" паводле І. Сідарука быў узнагароджаны Гран-пры, беларускі крытык і член журы фестывалю Таццяна Арлова адзначыла: "Можна смела казаць аб тым, што брэсцкая "Залатая табакерка" — удалы міжнародны выязны праект, які можна паказваць у любой краіне без перакладу". З лёгкай рукі Т. Арловай да гэтай арыгінальнай і займальнай пастаноўкі БТЛ першымі прыгледзеліся нямецкія калегі-лялечнікі. І вось 20 чэрвеня берасцейскія артысты накіраваліся ў Равенсбург, на штогадовы Міжнародны фестываль тэатраў лялек. Акрамя выступлення на фестывалі, беларускія майстры лялечнай сцэны з "Залатой табакеркай" выступяць і ў іншых гарадах Германіі.**

**І. Х.**

## Ці месца пацукам у тэатры?

**У Брэсцкім тэатры лялек распачаў рэпетыцыі новага спектакля "Крысач" ("Пацукалоў") паводле паэмы М. Цвятаевай вядомы беларускі рэжысёр Алег Жугжда. Жанр будучай п'есы пакуль вызначыць складана, — хутчэй за ўсё, гэта будзе містычная феерыя, якая павінна захапіць дзяцей, і дарослых. Тым больш, што ў гэтага рэжысёра першапачатковая задума ў канчатковым выглядзе часцяком набывае зусім іншае аблічча... Мастаком пастаноўкі выступае Валеры Рачкоўскі, а кампазітарам — Анатоль Багданаў. Прэм'ера запланавана на сярэдзіну ліпеня.**

**І. Х.**

# "Глядзі, цярпі і разумей..." альбо малавядомы Купала

*ДА 120-годдзя Янкі КУПАЛЫ*

Янка Купала, як і кожны геніяльны пісьменнік, заўсёды застаецца для нас да канца неспазнаным, да канца непрачытаным і таму таямнічым і заўсёды актуальным. Новую старонку яго творчай біяграфіі прыадчыніла нам выданне Поўнага збору твораў паэта ў 9 тамах, якое ажыццяўляе Інстытут літаратуры Акадэміі Навук Беларусі. Бадай кожны том, а вышла іх пакуль што сем, дадае нейкі новы штрых да, здавалася б, добра знаёмага духоўнага вобліка песняра. Так, напрыклад, як сказана ў анатацыі да 6 тома, куды ўвайшлі паэмы і пераклады, "упершыню ў збор твораў уключаны паэмы "На куццю" і "На дзяды".

Дадам ад сябе, што ў гэтым 6: томе ёсць і яшчэ некалькі надзвычай цікавых і знакавых публікацый, да якіх таксама ў пэўнай ступені можна дадаць вызначэнне "ўпершыню". Гэта пераклады двух фрагментаў паэмы А.Міцкевіча "Конрад Валенрод", якія ў апошні раз друкаваліся (першы— у Зб. твораў, 1932, т.УІ, другі — у часопісе "Полымя рэвалюцыі" (1940 г., № 11). А таксама арыгінальны купалаўскі тэкст, які называецца "Урывак з паэмы (Дзе хмары чэзлі, то зноў віслі..)" і ўяўляе сабой фрагмент няскончанага твора, у апошні раз ён друкаваўся таксама ў Зб. твораў 1932 г. (Дарэчы, згадкі пра яго адсутнічаюць нават у энцыклапедычным даведніку "Янка Купала" 1986 года выдання).

Цікава, што згаданыя творы — фрагмент міцкевічаўскай паэмы, які пачынаецца радкамі "З Мальборскай вежы званы загудзелі", і які Купала назваў "Выбар", і ўласны "Урывак з паэмы" —паэт упершыню апублікаваў у 1930 годзе, змясціўшы ў адной падборцы ў часопісе "Полымя" (№ 5-6). Пад перакладам з А.Міцкевіча стаіць дата 1908, пад тэкстам купалаўскага "Урыўка..."— 1910.

У свой час, друкуючы ўпершыню "Конрада Валенрода" (Пецярбург, 1828 г.), Адам Міцкевіч папярэдзіў яго эпіграфам — выказваннем вядомага сярэднявечнага італьянскага палітыка Н. Макіявелі: "Вы павінны ведаць, што ёсць два спосабы барацьбы ...трэба быць лісою і львом". У выніку сенатар Навасільцаў, які паводле службовага абавязку адным з першых прачытаў паэму, па-свойму слушна, хоць і надта спрошчана ахарактарызаваў яе Вялікаму князю Канстанціну: "Палітычная мэта твора — распальваць згасаючы патрыятызм, падтрымліваць нязгоду і рыхтаваць будучае паўстанне, а таксама навучаць сучаснае пакаленне, як быць зараз лісою, каб потым пераменіцца ў ільва",— пісаў ён.

Як вядома, Міцкевіч сам быў удзельнікам нацыянальна-вызваленчага руху і за свае палітычныя погляды быў прысуджаны да ссылкі ў Расію. Аднак яго пакаранне нельга лічыць суровым, у параўнанні з тым, што напаткала яго сяброў і паплечнікаў — філаматаў (Я. Чачота, Т. Зана і інш.). Жорсткі прысуд царскіх уладаў, што выпаў на долю яго сяброў, а яшчэ больш — смяротная кара, прызначаная некаторым удзельнікам рускага паўстання дзекабрыстаў 1825 года, да глыбіні душы ўразілі А. Міцкевіча. Гэтыя падзеі і сталі падставай для глыбокага роздуму пісьменніка над складанай праблемай узаемаадносін палітыкі і маралі, маралі і патрыятызму. Якія шляхі барацьбы з тыраніяй могуць быць выніковымі і ці існуюць такія шляхі ўвогуле? Якім чынам павінен змагацца колькасна невялікі этнас за сваё выжыванне з ворагамі, што пагражаюць яму поўным фізічным знішчэннем? Ці існуе нейкая мяжа маральнасці для патрыёта, якую ён не мае права пераступіць нават у імя вышэйшых мэт уратавання сваёй Айчыны? Акурат на гэтыя, актуальныя для тагачаснай Бацькаўшчыны, пытанні і спрабаваў адказаць А.Міцкевіч у сваім творы.

Нягледзячы на вялікую папулярнасць міцкевічаўскай паэмы, яе лёс быў і застаецца надзвычай складаным. Не толькі сенатар Навасільцаў, але і шырокія колы літаратурнай грамадскасці (у тым ліку і польскай) вельмі крытычна паставіліся да твора і асудзілі паэта за апафеоз здрады, які нібыта ляжыць у аснове гэтага твора. Характэрна, што большасць польскіх крытыкаў падкрэслівала "непольскасць" Валенрода, немагчымасць зьяўлення такога героя ў этнічна польскага аўтара. Так, славуты даследчык творчасці А. Міцкевіча Ю. Клейнер меркаваў, што паэт "не асмеліўся б, можа, на такое крайняе выяўленне канфлікту паміж заваяваным народам і ягоным бязлітасным прыгнятальнікам, калі б ведаў Варшаву і Кангрэснае Каралеўства, што валодала атрыбутамі польскай дзяржаўнасці, уласным войскам. Але ж ён ведаў толькі Літву, губерню, якой кіраваў чужы ўрад, і ўсялякія дзяржаўныя атрыбуты ён ведаў, як толькі прыналежныя ворагу" (Mickiewicz. T 1-2.— Lublin, 1934—1948.—T. 2- Cz -1.—1948. —81 s).

У пэўнай ступені салідарызаваўся з ім і наш В.Каваленка, які падкрэсліваў, што "ідэя "валенрадзізма" была парадкэннем краёвай свядомасці", што яна "вырастала на адчуваннях сардэчнай прывязанасці да той зямлі, якая адна толькі і магла даць паэту выток, аснову і страсць для гэтай ідэі. Гэта было, па сутнасці, самым глыбокім у сусветнай літаратуры маральным абгрунтаваннем прынцыпаў партызанскай і падпольнай барацьбы, і ўзнікла яно на эмацыянальнай ноце, якая спараджалася з пачуцця любві да беларускага краю",—пісаў В.Каваленка. [Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры.—Мн., 1981].

Пераклікаецца гэтая выснова і з выказваннем знакамітай польскай даследчыцы рамантызму Марыі Яніон, якая сцвярджае, што "валенрадызм зўяўляўся там альбо падазравалі, што ён зўявіцца там, дзе чалавек апынаўся ў драматычнай сітуацыі на памежжы двух светаў ці двух народаў, дзвюх культур, дзвюх рэлігій ці дзвюх спрэчных ідэй" [uycie poьmiertne Konrada Wallenroda.— Warszawa: Pacstwowy instytut wydawniczy, 1990].

Такім чынам, усе даследчыкі міцкевічаўскага твора сцвярджаюць адно: Конрад Валенрод мог нарадзіцца толькі там, дзе нарадзіўся, — на Беларусі і з беларускае рэчаіснасці. Якраз гэты момант і прадвызначыў шлях міцкевічаўскай паэмы па беларускай зямлі. Доўгі час, амаль да рэвалюцыі 1905 года, яна адносілася да забароненых цэнзураю твораў, а пазней — да тых, якія не раілі перакладаць, і ўжо зробленыя пераклады друкавалі з вялікай неахвотай.

Паэма А. Міцкевіча надзвычай уразіла Янку Купалу. У 1908 годзе ён пачаў перакладаць яе на беларускую мову. Некаторыя свае творы ў той час Купала нават падпісвае псеўданімам Вайдэлота — словам, непасрэдна запазычаным з міцкевічаўскай паэмы. Гэта была своеасаблівая даніна маладога Купалы традыцыям рамантычнай літаратуры і найперш творчасці А. Міцкевіча. Але асабліва выразна творчая пераемнасць адлюстравалася ва "Урыўку з паэмы", які малады паэт пачаў пісаць прыкладна ў той жа час (1910) і які невыпадкова апынуўся побач з міцкевічаўскім творам на старонках "Полымя". Гэтая пераемнасць заключаецца не ў механічным наследаванні мастацкіх прыёмаў ці пааасобных вобразаў вялікага польскага паэта, а ў тым, што наш сучаснік вядомы польскі пісьменнік Ю. Озга-Міхальскі, параўноўваючы творчасць Купалы і Міцкевіча, назваў "генетычнымі повязямі" двух геніяў. Адзначаючы арыгінальнасць купалаўскай паэзіі, ён падкрэсліў, што "ўплыў Міцкевіча як аднаго з найбольш знакамітых паэтаў славянства і народнага прарока можна адчуць у пазіцыі вялікага беларускага паэта, а таксама ў працэсе кшталтавання духа яго паэзіі".

Гэты "дух паэзіі" Озга-Міхальскі тлумачыць вельмі дакладна, як "выбар ідэйнай пазіцыі з таго самага боку барыкады". І справа тут, як слушна адзначае ён далей, "у нечым важнейшым, чым павярхоўнае падабенства. Абодва паэты зачэрпнулі свой новы сімвал з народна-міфалагічнага клімату зямной справядлівасці і абодва змагаюцца за тую самую справу. Гэта справа выбару дарогі не толькі для ўласнага стылю, але для агульнай ідэі, якая распачынае і развівае вялікі працэс развіцця народа і культуры" [Tygodnik ilustrowany.-1982.—11 lipca.—S-6].

Агульнай ідэяй, якая яднала двух геніяў, была, як вядома, ідэя незалежнасці роднага краю. У сваім "Урыўку з паэмы" Янка Купала творча пераасэнсоўвае вобраз міцкевічаўскага песняра-прарока Конрада (паэма "Дзяды"), які, узнёсшыся ў касмічныя высі, здольны бачыць і асэнсоўваць мінулыя і будучыя шляхі агульнанароднага лёсу.

*Дзе хмары чэзлі, то зноў віслі,*
*З-пад зор, з-пад блудных светачоў,*
*Ні вокам людскім, ані мысляй*
*Нязгадны цень ка мне зыйшоў.*

*І за руку маю узяўшы,*
*На высь узвёўшы хат вышэй,*
*Сказаў: – Глядзі – во ўсё тут наша, –*
*Глядзі, цярпі і разумей!*

Карціна агульнанароднага паганскага веча, якая паўстае перад вачыма паэта, мае на мэце паказчыць магчымыя і найбольш прыдатныя шляхі для дасягнення агульнай мэты— звяржэння чужацкага прыгнёту, які запанаваў над "роднай старонай". Песня-малітва паганскага святара акцэнтуе чытацкую ўвагу на знішчальнай, разбуральнай місіі чужынцаў у заняволеным краі:

*Цярэбіць стальною сякерай*
*Прыблуднік нашыя лясы,*
*Ў свае цянёты вабіць звера,*
*Святыя топча верасы.*

У якасці супрацьстаяння чужацкай навале Купала вуснамі свайго героя прапануе шлях актыўнай барацьбы:

*—Нам трэба к бою рыхтавацца,—*
*Не спіць над намі вораг наш,—*
*Нам трэба сілаю трымацца*
*Сваіх святынь, духоўных паш!*

У свой час А. Міцкевіч у "Конрадзе Валенродзе" вуснамі песняра-вайдэлоты Гальбана вызначыў мэты і задачы паэзіі ў агульнародным змаганні:

*O wieњsci gminna! Ty arko przymierza*
*Mikdzy dawnymi i miodszymi laty:*
*W tobie lud skiada broc swego rycerza,*
*Swych myњli przkdzk i swych*
*uczuж kwiaty.* [1]

Характэрна, што ў адрозненне ад А. Міцкевіча, найважнейшую кансалідуючую ролю ў няроўнай барацьбе з ворагам-чужынцам Купала надае не столькі паэзіі, колькі роднаму слову, роднай мове, якая толькі адна здольна захаваць нацыянальнае адзінства і ўратаваць асуджаны на выміранне народ:

*Дакуль свайго не здрадзіць слова*
*Свая народная рука,*
*Датуль з галін святой дубровы*
*Чужняк не сцягне і лістка.*

Сёння ўражвае не толькі змест, але і час публікацыі гэтага купалаўскага твора— май-чэрвень 1930 года, а таксама той факт, што ён быў змешчаны побач з перакладам фрагмента паэмы А.Міцкевіча "Конрад Валенрод". Нагадаю, што ў 1930 годзе скончыўся перыяд так званай беларусізацыі і над родным словам, як і над любой праявай беларускасці, навісла смяротная пагроза. У гэтым страшным 1930 распачынаюцца масавыя арышты беларускай творчай і навуковай інтэлігенцыі, дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху. Пагроза турэмнага зняволення непасрэдна навісае і над Янкам Купалам. З 15 лістапада гэтага ж года пачынаюцца рэгулярныя выклікі паэта ў ДПУ, якія вымусяць Купалу зрабіць замах на ўласнае жыццё.

Міне яшчэ некалькі тыдняў, і ў рэспубліканскім друку зўявіцца знакаміты пакаяльны ліст паэта, напісаны 10. XII і надрукаваны 14. XII, дзе ён як быццам адракаецца ад сваіх былых нацыя-

Галіна ТЫЧКА

---

[1] *О народная песня! Ты каўчэг запавету*
*Паміж старажытнымі і новымі часамі.*
*У табе народ хавае зброю свайго рыцара,*
*Сваіх думак прадзіва і кветкі сваіх пачуццяў.*
*(Падрадковы пераклад)*

налістычных памылак і запэўнівае рэжым у сваім пралетарска-камуністычным перавыхаванні. Характэрна, што тагачасныя "правадыры" пралетарыяту ні ў якія доказы купалаўскай лаяльнасці не захацелі паверыць. У пэўным сэнсе праніклівай і слушнай выглядае характарыстыка купалаўскай творчасці ў справаздачы 1929 года (як, дарэчы, і прыведзенае вышэй прачытанне сенатарам Навасільцавым паэмы А. Міцкевіча "Конрад Валенрод" сто гадоў таму да ўзгадваемых падзей), сталінскага эмісара ад ЦКК М. Затонскага, які спецыяльна быў накіраваны ў Мінск з Масквы, каб выправіць "недапрацоўкі" ў нацыянальнай палітыцы.

З уласцівым тагачасным партыйным кіраўнікам цынізмам і прафесійнай недасведчанасцю Затонскі піша пра творчасць Купалы тых гадоў: "Попадаются произведения и с более явными политическими намёками. Стихотворение крупнейшего "народного поэта" Янки КУПАЛЫ безсменного члена ЦИКа Белоруссии многих созывов: "Есть еще во мне сила, обида не дается — бороться. Над спящих предков могилами свободно молнией мигать, нашлось бы у меня еще песен, полных надежд и жизни, *кабы не был им свет тесен*...Есть у меня еще вера в свободный мой народ, который в случае необходимости выйдет с топором за волей в поход" [Гл.: Колас Г. Карані міфаў. Жыццё і творчасць Янкі Купалы.— Мінск: БГАКЦ, 1998. С. 167]. Тут М. Затонскі прымітыўна пераказвае шырокавядомы купалаўскі твор "Ёсць жа яшчэ..." (1926). Абвостраная бальшавіцкая інтуіцыя дапамагла яму правільна вызначыць асноўны пафас і ідэйную скіраванасць купалаўскага верша, як і ўсёй тагачаснай творчасці паэта. У купалаўскай адданасці савецкай уладзе Затонскага, у адрозненне ад пазнейшых літаратуразнаўцаў, не пераканалі ні "Безназоўнае", ні "Піянерская", ні "Летапіснае", ні "Дыктатура працы".

Дарэчы, пра згаданае "Безназоўнае" цікавыя і ў нейкай меры слушныя меркаванні выказаў у тым жа 1930 годзе (напярэдадні публікацыі купалаўскага "Урыўку з паэмы" і яго перакладу міцкевічаўскай паэмы) тагачасны крытык, паводле абставінаў вульгарна-сацыялагічны, І. Плашчынскі (больш вядомы сучаснаму чытачу, як паэт-мадэрніст Язэп Пушча). У часопісе "Узвышша" (№№ 4-5, 1930) І.Плашчынскі так характарызаваў Купалу: "Ён і прыняў рэвалюцыю, калі яна перайшла ў далейшыя формы развіцця, перш за ўсё толькі таму, што яна дала *нацыянальнае вызваленне* і вызваленне сіл ад паншчынных бядот. Але гэтага моманту нельга пераўвялічваць, тварыць з Купалы песняра рэвалюцыі пралетарскай, што ён паказаў яе шырокі размах, як гэта робяць услужлівыя людзі. Трэба быць вельмі наіўным, каб усьлед за імі гаварыць, што ў "Безназоўным" "выразна выступаюць мотывы пралетарскай паэзіі", што "мастацкі пэндзаль яго (Купалы — І. П.) з захапленнем рысуе шырокі размах *пралетарскай* рэвалюцыі"... Трэба проста не разумець ні "мотываў" пралетарскай паэзіі, ні характару самой пралетарскай рэвалюцыі, каб дайсці да такога "откровения". Няма ў "Безназоўным" ні таго, ні другога"

Што праўда, то праўда—няма ў "Безназоўным", ані ў іншых нават самых адыёзных купалаўскіх палітычных "дрындушках" тых часоў аніякага захаплення "пралетарскай рэвалюцыяй", аніякага шчырага яе ўсхвалення. Ёсць іншае. Ёсць спроба нават у невыносных умовах маральнага, духоўнага і фізічнага дэспатызму, кашмару сталінскага генацыду заставацца самім сабой, знешне як быццам прыняўшы норавы і звычаі новых уладатрымальнікаў. Такім чынам, можна сказаць, што жыццёвыя, а найперш палітычныя варункі ставяць Янку Купалу ў сітуацыю Конрада Валенрода, змушаючы да пошукаў нетрадыцыйных форм духоўнай барацьбы з таталітарным рэжымам.

У кантэксце падзей таго часу як адну з праяў маральнага, духоўнага змагання трэба расцэньваць і публікацыю ўжо згаданага "Урыўка з паэмы" і перакладаў з А. Міцкевіча ў самы разгар вынішчэння ўсялякіх пробліскаў нацыянальнай самасвядомасці. Твор гэты яшчэ раз падкрэсліваў нязломнасць і неўміручасць народнага духу, велізарную сілу роднага слова, якое, выказанае ў мастацкай форме, здольнае пераможыць усіх цемрашалаў-чужынцаў і ўрэшце вывесці народ да светлае і незалежнае будучыні.

# Юбілей у Вялікай Кракотцы

Кожны раз, калі еду ў вёску Вялікая Кракотка, што на Слонімшчыне, на думку прыходзяць радкі з верша Міколы Арочкі, прысвечанага Вялікакракоцкай сельскай бібліятэцы імя Янкі Купалы:

***Мой цэлы свет: Вялікая Кракотка,***
***Часоў бурлівых родны мацярык.***
***Была Кракотка, як рака ў паводку.***
***Была Кракотка — гнеў,***
***і боль, і крык...***
***...Нязломны дух...***
***Жывая сіла мовы.***
***Жыву з тых дзён я вашаю красой.***
***Жыткевічы... Збраевіч...***
***Трафімовіч...***
***Ля вас я грэўся словам і душой...***

Невыпадкова ў гэтых паэтычных радках Мікола Арочка ўспамінае прозвішчы Жыткевічаў, Збраевіча і Трафімовіча. Справа ў тым, што 75 гадоў назад у вёсцы Вялікая Кракотка на Слонімшчыне пры гуртку таварыства беларускай школы (ТБШ) вясковая моладзь заснавала бібліятэку-чытальню, якую назвалі імем народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. **Гэта была першая ўстанова культуры рэспублікі, якой прысвоена імя песняра беларускага народа.** Арганізатарамі ТБШ і бібліятэкі ў той нялёгкі 1927 год былі Рыгор Акулевіч, Сцяпан Ігнатовіч, Васіль Трафімовіч, Сямён Жыткевіч, Павел Таўлай, Кастусь Петручэня і іншыя.

Аб гэтай падзеі нават пісала газета "Наша праўда" (№ 11 ад 11 мая 1927 года). Дарэчы, што тычыцца Рыгора Акулевіча, то пазней, калі эмігрыраваў у 1928 годзе ў Канаду, ён быў актыўным арганізатарам федэрацыі рускіх канадцаў. У далёкай краіне Рыгор Акулевіч прымаў удзел у выпуску першай рускай газеты ў Канадзе "Канадский гудок", пасля рэдагаваў газету "Вестник". У Таронта ён напісаў і выдаў дзве свае кнігі "Рускія ў Канадзе" (1925 год) і "50 год Беларускай рэспублікі" (1968 год).

Працу моладзь пачала з таго, што сабрала сярод насельніцтва кнігі і грошы на набыццё літаратуры і інвентару. Знайшлося для культурнай установы і памяшканне — хата Данілы Грасевіча, які не вярнуўся з бежанства. На заклік вялікакракоцкіх сялян адгукнуліся і жыхары суседніх вёсак Рудаўка і Малая Кракотка. Бібліятэкарам на грамадскіх пачатках працаваў Сямён Акулевіч. Пры бібліятэцы адразу арганізавалі драматычны і харавы калектывы мастацкай самадзейнасці, якімі кіравалі Васіль Трафімовіч і Аляксандр Жыткевіч. За кароткі час вясковыя артысты паставілі "Паўлінку" "Раскіданае гняздо", "Прымакі", "На папасе", Янкі Купалы, вадэвіль Л. Родзевіча "Збянтэжаны Саўка" і іншыя п'есы. Вырucаныя ад пастановак грошы ішлі ў фонд бібліятэкі.

Найбольшае папаўненне бібліятэка атрымала ў канцы 1928 года, калі кніжны фонд склаў адну тысячу назваў. У гэтым была вялікая заслуга і кракоцкай моладзі.

Праіснаваўшы каля двух гадоў, бібліятэка — чытальня імя Янкі Купалы ў 1929 годзе была зачынена польскай паліцыяй, а кнігі канфіскаваны. Затым пачаліся рэпрэсіі супраць актывістаў, многіх без суда і следства кінулі ў канцлагер Картуз-Бяроза.

У верасні 1939 года ў вёсцы Вялікая Кракотка гэтую слаўную купалаўскую бібліятэку зноў аднавілі, але праз некаторы час яе дзейнасць была спынена — ужо гітлераўскім нашэсцем.

Дата новага нараджэння Вялікакракоцкай бібліятэкі — жнівень 1946 года, пасляваенны час. Аднойчы ў вёску завітаў супрацоўнік слонімскай раённай газеты "Вольная праца" паэт Анатоль Іверс. Ён сабраў калгасны сход, на якім было аднадушна вырашана назначыць загадчыкам бібліятэкі імя Янкі Купалы інваліда вайны Аляксандра Жыткевіча. Трыццаць гадоў адпрацаваў Аляксандр Іванавіч, рабіў усё, каб яго родная бібліятэка апраўдала імя вялікага Купалы. Хто толькі ні пабываў у бібліятэцы, хто толькі ні выступаў перад працаўнікамі сельскай гаспадаркі са словамі ўдзячнасці і павагі да роднага слова, да мудрага Янкі Купалы! У 1957 годзе бібліятэку наведалі Пятрусь Броўка, Янка Брыль і Іван Шамякін. Пятрусь Броўка падараваў бібліятэцы свой двухтомнік. На першым томе ён напісаў: "Бібліятэцы імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы. З вялікай пашанай да яе прыхільнікаў і актыўных чытачоў. Пятрусь Броўка. 29.5.1957 г.".

Аўтографы пакінулі Янка Брыль і Іван Шамякін.

У 1961 годзе свой двухтомнік з аўтографам прыслаў з Мінска Янка Брыль:



*Жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна ў Кракотцы, 1951 г.*



*Сяргей Грахоўскі выступае ў Кракотцы на 50-годдзі бібліятэкі імя Янкі Купалы, 1977 год*

"Чытачам бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы — з зямляцкай павагай і найлепшымі пажаданнямі Янка Брыль. Мінск. 6.01.61 г.".

У траўні 1957 года Вялікакракоцкая сельская бібліятэка імя Янкі Купалы святкавала сваё трыццацігоддзе. На юбілей завіталі з Мінска Максім Лужанін, Рыгор Няхай, Пятро Прыходзька, супрацоўнікі музея Янкі Купалы, якія з сабою ў дар бібліятэцы прывезлі каля пяцідзесяці кніг з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў. "Кракоцкай бібліятэцы імя Янкі Купалы ў дзень яе слаўнага трыццацігоддзя ад аўтара Пятра Прыходзькі", — так напісаў на сваёй кнізе "Салдаты міру" гэты паэт-франтавік.

У 1972 годзе бібліятэка шырока адзначала 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. У вялікім літаратурным вечары, які тут праходзіў, прымалі ўдзел паэты Сяргей Грахоўскі, Алег Лойка, Анатоль Іверс, кандыдат філалагічных навук Янка Саламевіч і многія іншыя. З вялікай радасцю чытаю аўтограф Сяргея Грахоўскага на кнізе "Тры вымярэнні": "Чытачам бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы. Жадаю жыць у шчасці, любіць і шанаваць ніву, засеяную Купалавай шчодрай рукою".

Многія пісьменнікі дарылі свае кнігі з аўтографамі асабіста Аляксандру Жыткевічу, які любіў сваю справу і шырока прапагандаваў родную літаратуру і культуру. Іх таксама сёння можна знайсці ў бібліятэцы. Праўда, многія ўжо бясследна зніклі. "Дарагому Аляксандру Іванавічу Жыткевічу і вялікаму сябру кнігі з сардэчнай павагай Мікола Арочка", — аўтограф земляка на кнізе "Крылатае семя". Пілíп Пестрак на сваёй кнізе "Неспадзяванак" напісаў: "Аляксандру Жыткевічу — ад шчырага сэрца".

Ёсць у бібліятэцы і аўтографы Леаніда Прокшы, Сяргея Панізніка, Івана Навуменкі, Алеся Якімовіча, Міколы Аўрамчыка, літаратараў Слонімшчыны. Але самая каштоўная рэліквія, якую захоўвае бібліятэка, — гэта аўтограф Якуба Коласа. У 1952 годзе з Мінска ён прыслаў бібліятэцы сваю кнігу "Адшчапенец", выдадзеную ў 1950 годзе. На ёй чарнільнай ручкаю напісана: "Бібліятэцы імя Янкі Купалы вёскі Вялікая Кракотка. Якуб Колас. 2.8.1952 г.".

Вялікую дапамогу ў рабоце бібліятэкі аказала і жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Жывучы ў Мінску, яна амаль кожны месяц прысылала ў бібліятэку пісьмы, бандэролі і пасылкі з кнігамі і альбомамі. У 1951 годзе Уладзіслава Францаўна ўпершыню наведала Вялікую Кракотку, а ў 1957 годзе прымала ўдзел у святкаванні 30-годдзя бібліятэкі. Сустрэчы з гэтай жанчынай Аляксандр Жыткевіч (у мінулым годзе яго не стала) і заўсёды ўспамінаў з вялікім хваляваннем, радасцю і цеплынёй. Яна была вельмі задаволена, што бібліятэка на Слонімшчыне носіць імя Янкі Купалы. Дзякуючы цёці Уладзі, для бібліятэкі прыслалі свае кнігі з аўтографамі Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак і многія іншыя дзеячы нацыянальнай літаратуры.

Сёння, у дзень свайго 75-годдзя, Вялікакракоцкая сельская бібліятэка з'яўляецца цэнтрам беларускай культуры, асветы і крыніцай інфармацыі на Слонімшчыне. Загадчыцай яе працуе Надзея Чабаненка. Працуе сумленна, старанна і ўпэўнена працягвае традыцыі сваіх землякоў. Фонд бібліятэкі налічвае 12,5 тысяч кніг, штогод яна абслугоўвае каля трохсот сваіх чытачоў. У нядзелю, 16 чэрвеня, у Вялікакракоцкай бібліятэцы імя Янкі Купалы творчая інтэлігенцыя Слонімшчыны адзначыла 75-гадовы яе юбілей. На вечарыне выступілі пісьменнікі Мікола Арочка. Аляксей Якімовіч, Іван Сяргейчык, супрацоўніца літаратурнага музея Янкі Купалы Людміла Давыдоўская і іншыя.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Купалаўскія “Прымакі” на Слонімскай сцэне

**У Слонімскім беларускім драматычным тэатры адбылася прэм'ера спектакля “Прымакі” паводле п'есы класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы.**

**Гэта ўжо другая пастаноўка “Прымакоў” на слонімскай прафесійнай сцэне. У 1993 годзе гэту п'есу ўпершыню паставіў рэжысёр Мікалай Варвашэвіч. Рэжысёрам новага спектакля выступіў галоўны рэжысёр тэатра Віктар Бутакоў. Цікава, што некаторыя артысты, якія дзевяць гадоў таму ігралі ў “Прымаках”, заняты і цяпер у спектаклі. Праўда, ім дасталіся зусім іншыя ролі. А ўвогуле ў новых “Прымаках” занята ўся акцёрская трупа тэатра.**

**Пачынаецца спектакль з сустрэчы трох вясковых пляткарак (І. Яцук, В. Міхальчык, Н. Ільчанка), якія распавядаюць адна адной, што робіцца ў вёсцы, а таксама разважаюць пра мужыкоў. Далей падзеі адбываюцца, як у п'есе. На сцэне п'яны Максім Кутас (У. Навумік) трапляе ў хату свайго суседа Трахіма Сініцы (А. Шалахонаў). Пакуль гледачы яшчэ не ведаюць сапраўднай прычыны начоўкі Кутаса ў чужой хаце. Яна раскрываецца толькі ў канцы спектакля, калі выяўляецца, што моцна п'яныя мужыкі памяняліся на адну ноч хатамі, толькі каб дазнацца, чыя ж з іх жонка самая горшая. Адсюль і ўзнікла гэтая, поўная непаразуменняў, надзвычай камічная сітуацыя, якую добра аздабляе мова персанажаў, багатая народнымі параўнаннямі, прымаўкамі, фразеалагізмамі, трапнымі выразамі.**

**Спектакль “Прымакі” ўяўляе сабой вясёлы вадэвіль, напоўнены лагодным народным гумарам, спевамі і танцамі (музычнае афармленне спектакля належыць ансамблю “Грымата” Слонімскага РДК). Ён прызначаны для таго, каб пазабавіць публіку, прымусіць яе ад душы пасмяяцца. І з гэтаю задачаю калектыў слонімскага тэатра справіўся паспяхова.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Кніга пра касманаўта

**Брэсцкі публіцыст Мікола Панасюк — аўтар дзвюх дакументальных кніг — “Арыенцір — сузор'е “Арыён” (выд. “Беларусь”, 1975) і “К созвездиям” (“Беларусь”, 1977) пра лётчыка-касманаўта СССР, двойчы Героя Савецкага Саюза Пятра Клімука — парадаваў чытачоў новым выданнем.**

**Ягоная чарговая кніга “Крык немаўляці” (другое выданне) убачыла свет у ААТ “Брэсцкая друкарня” напярэдадні 60-годдзя з дня нараджэння (10 ліпеня) нашага слыннага земляка — начальніка Цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў імя Ю. А. Гагарына. Старонкі з жыцця Пятра Клімука на гэты раз пададзены як з дапамогай пяра публіцыста, так і ў вершаванай форме. У новым зборніку чытач таксама знойдзе унікальныя здымкі нашай планеты, зробленыя на калязямной арбіце, у Зорным Гарадку і ў вёсцы Камароўка Брэсцкага раёна, дзе першы беларускі касманаўт нарадзіўся і вырас.**

**Аўтар дзеліцца ўражаннямі аб нядаўняй паездцы ў Зорны Гарадок, незабыўных сустрэчах з героем свайго публіцыстычна-паэтычнага аповеду незадоўга да юбілею. Напісаў прадмову да кнігі аднавясковец Пятра Клімука — загадчык аддзела брэсцкай абласной беларускамоўнай газеты “Народная трыбуна” Аляксандр Курэц.**

**Увесь тыраж кнігі з густам выдадзены ў цвёрдай вокладцы. Яе першыя экземпляры Мікола Панасюк падпісаў для свайго земляка Пятра Клімука, яго сяброў. Прэзентацыя новага выдання адбудзецца ў Галоўчыцкай базавай школе Драгічынскага раёна, адкуль родам аўтар.**

**Віктар ЛОСКІ**

# У ВЯНОК ПЕСНЯРУ

Васіль МАКАРЭВІЧ

## Бяссмерце

*I*
*Пяро ідзе*
*То крыва, то наўскос,*
*І літары выводзіць, як папала.*
*Купала піша верш? Ды не! Данос!*
*А на каго? Ды на сябе,*
*Купалу.*
*Сквер ссівярэў.*
*Не звоняць жаўрукі.*
*Адно спадае ўніз лістоты пер'е.*
*Ну а паэт амаль у дзве рукі*
*Пяром арэ загон*
*Густой паперы*
*Яму здаецца, —*
*Хату поўніць дым.*
*І ён ніяк ад чаду не адыдзе.*
*А дзіўны прывід грузна па-над ім*
*Навісне, то маўкліва ўбок*
*Адыдзе.*
*Гадамі*
*І душой немаладзён,*
*Зазнаў нямала ён удач і бедаў.*
*А ў прывіду, што ледзьве-ледзь відзён,*
*Мільгае постаць і абліччa*
*Бэндэ.*
*Як увайшоў,*
*Прабраўся у пакой?*
*Мо быў занесен ён з ліствой апалай?*
*Ды ўпэўнена купалавай рукой*
*Паклёпу клёп кляпае*
*На Купалу?*
*Чаму з уласных*
*І сямейных сцен,*
*Дзе гаспадар — прыгонны і вяльможа —*
*Не Бэндэ-хціўца, а ягоны цень*
*Турнуць у плечы, пратурыць*
*Не можа?!*
*А прызнаецца,*
*Што ў святы Эдэм*
*Цераз прасцяг вяла сцяга крывая.*
*І сам сябе, як змоўшчык і нацдэм,*
*Бязлітасна і жорстка*
*Выкрывае?!*

*2*
*Хоць па марксізму*
*Ён, здаецца, здаў*
*Экзамены не менш, чым на выдатна,*
*Мінуўшчыны яму свет засціў здань*
*Ад першых дзён і да апошняй*
*Даты.*
*Былых намераў,*
*Колішніх гадоў,*
*З якімі клятвай вернай заручыўся,*
*Прылюдна, з пакаяннем, ён гатоў*
*Ён кожнаю хвілінай*
*Зрачыся.*
*Век яміну*
*Бяздонную разрыў,*
*Дзе у кагал сыноў і дрэнь сабралі.*
*Таму і аб'яўляе ён разрыў*
*З нацдэмаўскаю хеўрай*
*І сябрамі.*
*Сярод падзей,*
*Нібыта крохкіх крыг,*
*Нярэдка трызніў крыламі Ікара.*
*Таму гатоў панесці кожны міг*
*Ён самую бязлітасную*
*Кару.*
*Душу раз'ела*
*Роспачы іржа,*
*Яе не спаліш і ў пякельным горне.*
*Як жудасна, — штодзень лязо нажа*
*У вочы лезе, просіцца*
*Да горла.*

*Хто ведае,*
*Ў трызненні ці паўсне,*
*Каб ранаю застацца нажавою,*
*Рукой Купалы Бэндэ паласне,*
*І пройдзецца няшчадна*
*Па жывому.*
*Жыццё пражыць —*
*Не кладку перайсці,*
*А заплаціць за ўсё высокай платай.*
*Паэт ачнецца ў замеці прасцін*
*Бальнічнай беласнежнае*
*Палаты.*
*За шыбай*
*Церусіўся снег кастрой.*
*А па-над ім, з гаркотаю у роце,*
*Спалоханаю ценькай медсястрой*
*У галавах стаяла*
*Бессмяроцце.*



Сяргей ПАНІЗНІК

## На Купалавым кургане

*Я на гэтым на кургане*
*Усё сяджу і плачу,*
*Усё чакаю змілавання,*
*Дый ніскуль не бачу.*
*Ці апомняцца сыночкі*
*У сваёй праўдзе?*

**Янка КУПАЛА**

*Год ад году, год ад году*
*думаецца дзень пры дні:*
*сціхлі “ворагі народа”*
*на расстрэльнай глыбіні?*
*Засакрэчаныя косці*
*вытыркаюцца штораз...*
*Адвакаты-ягамосці,*
*не спісаць ні іх, ні нас.*
*Не адбеліце вы катаў.*
*Кроў нявінную не змыць, —*
*колькі б сёння вам не выць*
*на калючым дроце спратаў.*
*Праз пажоўклую паперу*
*праяўляецца архіў...*
*(На клыках дзяржавы-звера —*
*ашмаццём — і мой наіў.)*
*Вы — ратаі мёртвай пашы,*
*вы — унюхачы гайні...*
*Далакопы, служба ваша*
*не парвала карані.*
*Тыя, знішчаныя “вышкай”,*
*закапаныя так-сяк*
*адбіваюцца ад выжлаў...*
*...Дзядзька Янка з дому выйшаў,*
*ухапіўся за касяк...*
*І Купалаў посах звонкі*
*сам пайшоў шукаць сляды*
*ад сяброў, і ад Старонкі,*
*ад нязніклай свалаты.*
*І намацвае кіёчак*
*у жальбінны скрушны дзень:*
*дзе апомнены сыночак,*
*дзе ў сваёй праўдзе сцень,*
*хто з даўгога палявання*
*дачакаўся змілавання —*
*небыцця страсае поўсць*
*ў Беларусь ідзе, як госць...*
*Маладое тчэцца ранне.*
*Сам Купала — павяртанне*
*да адпомнення-змагання.*
*...Па Купалавым кургане*
*нехта ходзіць.*
*Мы там ёсць!*

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

## Вяртанне Купалы

*Уся Беларусь —бы адолеўшы стому —*
*Зару сустракала,*
*Калі з Пецярбурга вяртаўся дадому*
*Наш Янка Купала.*

*З Нявы да Нямігі, да роднае хаты,*
*Дзе песня лунала,*
*На крылах ляцеў, як арол зухаваты,*
*Наш Янка Купала.*

*Здаецца, выскоквалі хвалі Нямігі*
*З зямлі на прычалы.*
*Былі ўжо і п' есы, і новыя кнігі*
*У Янкі Купалы.*

*Гнявіла “Жалейка” любую навалу,*
*Падаўшы свой голас.*
*І першым на Нёмане Янку Купалу*
*Страчаў Якуб Колас.*

*Уся Беларусь у тым памятным годзе*
*Іх шчыра вітала.І гутарку з сябрам аб родным народзе*
*Вёў Янка Купала.*

*Яшчэ гаманілі за шчырай бяседай*
*Пра часу навіны,*
*Бо хто ж яшчэ мог за іх лепш тады ведаць*
*Жыццё ўсёй краіны?*

*Сядзеў на куце з імі свет увесь разам.*
*Хоць час быў суровы, —*
*Здаецца, у хаце цяплела адразу*
*Ад матчынай мовы.*

*Край родны і любы, ад песень багаты,*
*У сэрцы запалы!*
*Навечна ўвайшло ў тваё будні і святы*
*Вяртанне Купалы!*

Уладзімір ГАРДЗЕЙКА

## У Купалавым скверы

*Зноў я над Свіслаччу*
*Ў скверы Купалаўскім,*
*Дзе залатыя мінулі гады,*
*Там, дзе студэнтамі*
*Шчасця гукалі мы,*
*Дзе мой застаўся сум малады.*

*Тая ж трава тут, і ліпы ўсё тыя,*
*Тая ж у бераг пляскоча вада,*
*Помнік Купалу — наша святыня.*
*“Хто там ідзе?” — я ізноў прыгадаў...*

*Дзе б я ні быў, а шукаючы лепшага,*
*Усюды у сэрцы быў гэты куток,*

*Быццам каханне — нясмелае, першае,*
*Быццам у спёку апошні глыток.*

*Зноў я над Свіслаччу,*
*Ў сверы Купалаўскім,*
*Ўсё, што мінула — ізноўку са мной.*
*Дзякуй сказаць хачу — доля мне выпала*
*Жыць з Песняром у краіне адной.*

Тамара КАЛАМІЕЦ

(Украіна)

## У вянок Песнярам

*Янка Купала*
*– Хто гэты чалавек,*
*Што праз гады*
*Ідзе, глядзіць адкрыта,*
*Без забрала? —*
*А мне стары і малады:*
*– Няўжо ты не бачыш?*
*Гэта ж — Купала.*
*– І ўсё ж, чаму*
*Ідзе ён па зямлі?*
*Магчыма, не хапіла*
*П'едэстала? —*
*А мне дарослы і малы:*
*– Няўжо ты не ведаеш?*
*Гэта ж — Купала.*
*Папараць-кветка*
*Ў ягоных радках,*
*Думак яго*
*Развінуліся крылы,*
*І слава найвялікшая ў вяках*
*Паэта ад зямлі не аддзяліла.*

Анатоль ЧАПУРОЎ

(Расія)

## Сын Беларусі — Янка Купала

*Ліпень духмяны*
*Сінеўся ільнамі,*
*Чырвоны ад вішань*
*Звінеў салаўямі.*

*І месяц у небе начным*
*Залаціўся.*
*Той добрай парою*
*І сын нарадзіўся.*

*Сынок нарадзіўся,*
*А маці не знала:*
*Сын Беларусі —*
*Янка Купала.*

*Песню спявала*
*Люляла, вучыла:*
*Хлебнае поле —*
*Сялянская сіла.*

*Рэчка ў пушынках,*
*Дуброва на ўзгор'і,*
*Песня аб радасці,*
*Песня аб горы —*

*Усё хвалявала,*
*А доля людская*
*Поўніла сэрца*
*Да самага краю.*

*І па зялёным,*
*На белым раздоллі*
*Сэрца запела*
*Пра поле, пра долю.*

*У змроку спяваў ён*
*Пра хату, пра сонца.*
*Верыў: засвеціцца*
*Сонца ў ваконцы.*

*З ім я сустрэўся,*
*Заранка зазззяла.*
*Сын Беларусі —*
*Янка Купала.*

*Янка Купала... —*
*Звініць над палямі.*
*Ліпень духмяны*
*Сінее ільнамі.*

Аляксандр ПРАКОФ'ЕЎ

## Беларусам

*Мне сняцца*
*сны аб Беларусі*

*Янка Купала*
*Мае сябры,*
*Вы на вякі са мною*
*Па еднасці!*
*Нічым нас не разліць.*
*І полем, і дарогай баравою*
*Мая любоў*
*Насустрач вам ляціць.*

*Яна пяе (без гэтага няможна).*
*І вас сябры,*
*Яна вітае скрозь,*
*Яна ляціць —*
*Ад Нёмана і Сожа*
*І да Дняпра,*
*Яна — жыццё і лёс.*

*Яе пачуюць*
*Янкі і Марусі,*
*Калі яна,*
*Як вецер, праляціць.*
*(Над ёй не згасне*
*Сонца Беларусі)*
*І крылы песні гордай*
*Залаціць.*

*І я хачу,*
*Каб на яе упала*
*Хоць крышачку*
*Таемнага святла*
*З свячэння слоў,*
*Якое ўзяў Купала,*
*З якім*
*І зорка Коласа ўзышла!*

**Пераклаў**
**Ю. СВІРКА**





# Спавядальнікі спадзяванняў

Не так часта мы дазваляем сабе пісаць высокія найменні з вялікай літары. У XIX стагоддзі было прынята вызначэнне нацыянальнасці ўшаноўваць вялікай літарай. У канцы XX века мы прыўзняліся ў напісанні слова Бог. Менее сёння ахвотнікаў прыніжаць Айчыну, Бацькаўшчыну (хаця б у напісанні гэтых урачыстых сімвалаў нашай мацерыковасці). Францішак Скарына ў сваёй віленскай новазапаветнай кнізе (1525 г.) надрукаваў і "Дзеянні апосталаў" і іх "Пасланні". Евангельскі апостал — гэта пасланец. Заўзятымі паслядоўнікамі і руплівымі прапаведнікамі ідэй нашага Адраджэння, боскага існавання Беларусаў на зямлі былі Янка Купала, Якуб Колас, дзесяткі іх геніяльных сутворцаў. І ўсё ж першымі спавядальнікамі спадзяванняў абуджанага сто гадоў таму народа сталі яны — раўналеткі Ян і Якуб. Сыны з каталіцкай і праваслаўнай сем'яў сваімі "дзеяннямі" і "пасланнямі" стварылі творчую унію. Будзіцельства, падзвіжніцтва Коласа і Купалы ўмацавала духоўную еднасць роднага народа, паспрыяла яго ўдзяржаўленню.

То каго ж з двух геніяў называць першым, калі прыняць пад увагу, што нашая ўдзячнасць за іх жыццёвы і грамадзянскі подзвіг аднолькавая?

І да сённяшняга дня гэтыя два волаты стаяць сцяною за нас з вамі. А мы за імі — як за каменнай сцяною. І яшчэ. Калі людзі згадваюць пра свой дом, кажуць: свае сцены. Купала і Колас не толькі напаўняюць змест Нацыянальнай Ідэі. Яны незгасальным дыханнем — духам спадчыны — па сёння абаграваюць Беларускі Дом. Спавядальнікі спадзяванняў у поўным сэнсе гэтага слова ўдыхнулі натхненне дзесяткам сваіх спадкаемцаў. Вось якое прызнанне занатаваў Сяргей Грахоўскі:

Купала і Колас адкрылі мне зрок,
Душу зачароўвалі матчыны песні...

Выдадзеныя ў Вільні кнігі Якуба Коласа і Янкі Купалы абудзілі ў ім, як прызнаваўся Вячаслаў Адамчык, і нацыянальную свядомасць і прагу пісаць.

Паэты — нібы падвойныя зоркі, якія не засланяюць адно выпраменьванне другім, а толькі павялічваюць свячэнне Слова, праніклівасць Мовы, каб у сузор'і дзяржаў і народаў не адхілілася ад сваёй арбіты наша планіда, каб узнадзеіўся лёс іх суайчыннікаў.

Спавядальнікі на сыноўскае служэнне Бацькаўшчыне здзейснілі ці не самы галоўны клопат: уваскрослая Беларусь заняла свой пачэсны пасад між народамі. З чыннасці Купалы і Коласа пазнавалася ў шырокім свеце новая зямля мройных, таленавітых, з багатым гістарычным набыткам спадчыннікаў, людзей самавітых і дружбістых, адметных узлётамі духу і трагізмам лёсу. Далёка быў чуцен голас спадзяванняў Янкі Купалы і Якуба Коласа! На гэты самавызначальны кліч адгукнуліся украінцы І. Крыпякевіч, І. Свянціцкі, чэхі А. Чэрны, Ё. Гора, латыш Я. Райніс, рускія В. Брусаў, Максім Горкі... Да сённяшняга дня праз спадчыну нашых геніяў рэпрэзентуецца Беларусь. А спрыяюць гэтаму Вера Рыч, Арнольд Макмілін у Велікабрытаніі, Янка Запруднік, Вітаўт і Зора Кіпелі ў Злучаных Штатах Амерыкі... Даводзілася стаяць у Нью-Йорку каля дома малодшага брата Якуба Коласа — Міхася Міцкевіча (літаратурны псеўданім — Антось Галіна). З цяжкахворым суайчыннікам не ўдалося пагаварыць, але стала вядома, колькі многа зроблена дзеля Бацькаўшчыны гэтым чалавекам — крывінкаю славутага роду Міцкевічаў.

Наш родны руплівец у Празе — доктар Вацлаў Жыдліцкі, ганаровы прафесар БДУ. 35 гадоў творчага супрацоўніцтва з зямлёю Скарыны, Коласа, Купалы мае за плячыма рыжанка Мірдза Абала.

Маладой супрацоўніцай Латвійскай Акадэміі навук яна прыязджала ў Беларусь, сваю творчую Мекку, за натхненнем. Яшчэ адзін вучоны — прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі, не філолаг па адукацыі Генадзь Рымскі выдаў у 1999 годзе ў маскоўскім выдавецтве "Русский двор" зборнік уласных перакладаў на рускую мову беларускай лірыкі XIX-XX стагоддзяў. Так вось, творы Якуба Коласа Генадзь Васілевіч лічыў найбольш блізкімі стылю, почырку, музыцы вершаў Пушкіна.

Летась сваё 75-годдзе адзначыў у Віцебску асецінскі паэт Аляксандр Пухаеў. Ён зрадніўся з Беларуссю і сямейнымі повязямі, і агнём душы. На мову К. Хетагурава пераклаў кнігі выбраных твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.

То ці ж беднымі і сіратлівымі "стаім мы перад будучыняй нашай..."? Застаецца толькі прыслухоўвацца да геніяў нацыі і спаўняць іх запаветы: "...вам трэба любіць, ведаць і шанаваць мову свайго народа і ўмець дасканала валодаць ёю" (Якуб Колас), "...цвёрда верыць, што верх возьме праўда" (Янка Купала).

Янка Купала, Якуб Колас былі сярод заснавальнікаў Беларускага Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Для міжнароднай супольнасці вялікія патрыёты і грамадскія дзеячы сталі дагляднымі сімваламі незгасальнага духу беларусаў. Іх творчая прысутнасць у сусветнай культуры невымерная. І каб выявіць яе своеасаблівыя параметры, меру ўздзеяння на сучасныя працэсы культурных узаемадачыненняў нашай дзяржавы з краінамі блізкага і далёкага замежжа, з прадстаўнікамі беларускай дыяспары, яшчэ летась Дом дружбы пачаў ажыццяўляць спецыяльную праграму, прымеркаваную да 120-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа — класікаў беларускай літаратуры. Першымі прайшлі вечарыны, прысвечаныя сябрам нашага прыгожага пісьменства — літоўцу Людасу Гіру і латышу Янісу Райнісу...

Пасля стварэння 13 лістапада 2001 года Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па правядзенні ўрачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, былі абнародаваны цікавыя культурніцкія і выдавецкія праекты. А выдавецтва "Юнацтва" прадставіла дзесяты выпуск зборніка гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына", дзе сабрана толькі невялічкая частка з усяго, што напісана пра волатаў Купалу і Коласа. У гэтай кнізе вы спазнаеце, як адзін Творца ідзе напярэймы другому, як абодва яны ідуць насустрач вам. Так і хочацца працытаваць урывак з верша Анатоля Вярцінскага "Купала ідзе да Коласа":

*Адзін у полі не воін.*
*Два берагі ў ракі.*
*Купала і Колас — двое,*
*як гэтыя два берагі.*
*У гэтым краі хапала*
*міжусобіц і здрад...*
*Да Коласа — Купала*
*ідзе, як да брата брат.*
*Каб шырагам адзіным*
*пайсці на вялікі сход —*
*па Бацькаўшчыну, па Радзіму,*
*па шчаслівы народ...*

У дзесятым выпуску зборніка гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына", які з 1990 года выходзіць у выдавецтве "Юнацтва", пасля прадмовы да кнігі пад загаловкам "Спавядальнікі спадзяванняў" адразу ідуць творы саміх народных песняроў. Раздзел "Геніі нацыі" запоўнены эмацыянальным і навуковым досведам Р. Барадуліна, В. Быкава, Н. Гілевіча, В. Рагойшы.

Самы вялікі тэматычны блок зборніка склалі паэтычныя і празаічныя радкі "ў вянок пашаны" Коласу і Купалу. Аб'ём кнігі не дазволіў выкарыстаць сотні твораў, прысвечаных пракокам і апосталам нашай нацыі, выказнікам думаў і мараў народных.

Матэрыялы аб прысутнасці Янкі Купалы і Якуба Коласа ў суседніх літаратурах змешчаны ў раздзеле "Паплыло паводкаю, загуло, як вецер, слова беларускае па вялікім свеце". Натуральна, што вершы аўтараў многіх нацыянальных паэтаў даюцца ў перакладзе.

Юбілейная кніга аздоблена ілюстрацыямі мастакоў В. Шаранговіча, М. Купавы, Я. Раманоўскага, А. Кашкурэвіча, У. Стальмашонка, Я. Ціхановіча, Я. Струпуліса, а таксама фотаздымкамі, архіўнымі рэпрадукцыямі.

Спавядальнікі спадзяванняў — Янка Купала і Якуб Колас — чакаюць свайго чытача. Шкада: падрыхтаваную ў "Юнацтве" кнігу па "тэхнічных" прычынах няма каму даводзіць да ладу.

**Сяргей ПАНІЗНІК**












*У снежні 1922 года на ўрачыстым адкрыцці Дзвінскай беларускай дзяржаўнай гімназіі была ўпершыню ў Латвіі пастаўлена "Паўлінка" Янкі Купалы. Спектакль, падрыхтаваны Паўлінай Мядзёлкай, быў паўтораны ў Рызе на сцэне Нацыянальнага тэатра ў 1924 годзе (п'еса ў перакладзе на латышскую мову Уладзімірам Пігулеўскім у гэтым тэатры была пастаўлена прафесійнымі латышскімі артыстамі ў 1950 годзе).*

*Аматарскія спектаклі па п'есах Янкі Купалы "Паўлінка", "Раскіданае гняздо" ў 20-40-я гады праходзілі ў многіх гарадах, мястэчках і вёсках Латгальскага краю. Выхаванцы Луцынскай (г. Лудзэ) беларускай гімназіі паставілі "Паўлінку" ў 1923 годзе. Ролю Паўлінкі выканала тады вучаніца VII класа К. Міколаюнас. На адвароце фотакарткі з выявай Паўлінкі захаваўся надпіс Канстанціна Езавітава: "Яго Міласці Высокапаважанаму Грамадзяніну Дэпутату Я. Райнісу на ўспамін. 28 красавіка 1923 г." Так Беларускае культурна-асветнае таварыства "Бацькаўшчына" выказала павагу і падзяку свайму заступніку.*

*Сярод выяўленых у Латвіі дакументаў на адваротным баку фота з выяваю Агаты Пустарэвіч чытаем надпіс таго ж самага К. Езавітава: "22.5.1923. м. Залесьсе. З. Васілеўскай. Дужа сварлівая і занозлівая Вы баба па ролі і добра праходзе яна ў Вас, але не дай жа Вам Божухна гэткага характару ў жыцьцю. Трымайцеся і аглядайцеся!"*

*З 1924 года глядзіць на нас яшчэ адна Паўлінка – Надзея Мікалаева-Комісарэ, якую П. Мядзёлка называла Зязюлькай за выдатнае выкананне народнай песні ў купалаўскім спектаклі.*

*З архіва Сяргея Пятровіча Сахарава, былога дырэктара гімназіі ў Дзвінску (г. Даўгаўпілс), фотаздымкі нагадваюць пра пастаноўку "Раскіданага гнязда" (1.12.1928 г.), а таксама аб спектаклі "На полацкім замчышчы" (інсцэніроўка Вольгі Сахаравай паводле паэмы Янкі Купалы "Сон на кургане" (1928 г.).*

*Купалава прысутнасць сярод беларусаў Латвіі зеллем не зарасла. Толькі адзін прыклад: беларуская суполка "Мара" ў Ліепаі арганізавала ансамбль народнай песні; нашы суайчыннікі, а перадусім кіраўнік ансамбля Жана Буйніцкая, далі гурту імя — "Паўлінка".*





На фота з архіваў аўтара: люцынскія героі Купалавай п'есы К. МІКОЛАЮНАС, Я. КУДРАЎЦАЎ, З. ВАСІЛЕЎСКАЯ; Паўлінка-Зязюлька Н. МІКАЛАЕВА-КОМІСАРЭ; С. САХАРАЎ (другі справа ў верхнім радзе) з удзельнікамі пастаноўкі "Раскіданае гняздо"; С. і В. САХАРАВЫ з юнымі артыстамі ("На полацкім замчышчы").

**З архіва Сяргея ПАНІЗНІКА**

"Паўлінку" ў той час, калі ўжо адчуў сябе лідэрам нацыянальнага адраджэння Беларусі і абмінуць у такой п'есе нацыянальна-культурны аспект ужо не мог. Няма сумнення, што Якім Сарока — не проста вясковы інтэлігент-асветнік, гэта ўжо прадстаўнік новай беларускай інтэлігенцыі, нацыянальна свядомай, патрыятычнай, што, як і сам Купала, глыбокімі каранямі душы адчула свой гістарычны абавязак перад народам. У сувязі з гэтым — адзін цікавы эпізод з творчай гісторыі "Паўлінкі". У страшным 1937 годзе ахоўнікі бальшавіцкай ідэйнасці ў мастацтве і літаратуры да зместу камедыі прычапілі-прыляпілі рэвалюцыйную цытату з М. Горкага, з яго "Буравесніка". (Укладзена ў вусны Якіма.) Сцвярджаюць, што Купала даў згоду на гэта. Дзіва што даў! Няцяжка ўявіць, як, бачачы, што робіцца ў краіне, і адчуваючы, як ужо зламалі яго самога, ён махнуў рукою: рабіце, што хочаце, — дапісвайце, выстрыгайце, калечце і нявечце, — ужо ўсё адно, праўда гісторыі вам не патрэбна, і беларуская культура вам не патрэбна, і мова, і літаратура, і тэатр — усё ідзе на звод-гібель, і сам я жыву-трымаюся па недаразуменні. Але ў 1912-м Купала так не пачуваўся і так не думаў. І таму прыпіска ад Горкага была недарэчнай, бо асацыявала з пралетарскай рэвалюцыйнасцю, з рухам тых, што пазней, у 1917-м, зробяць бальшавіцкі пераварот. Купала з гэтым рухам звязаны не быў і на прабальшавіцкіх пазіцыях не стаяў, ён змагаўся за Беларусь пад сцягам нацыянал-дэмакратычным, яго палітычныя ідэалы абсалютна не супадалі з камуністычна-бальшавіцкімі.

Сцэнічны жарт у адным акце "Прымакі" — рэч у Купалы-драматурга на асобным рахунку, у тым сэнсе, што яна начыста вызвалена ад сацыяльнага аспекту. Ды і ў сямейна-бытавым плане яе змест не прэтэндуе на маральна-этычны ўрок, асуджэння такой бытавой заганы як п'янства па сутнасці няма. Усё, што ў гэтым плане можа сказаць чытач-глядач: дапіліся два дурні да таго, што надумаліся абмяняцца на адну ноч сваімі ложкамі, пабыць узаемна прымакамі. Маўляў, пабачым, як на гэта адрэагуюць жонкі. І абмяняліся. Праз гэту п'яную дурноту Максіма і Трахіма моцна пасварыліся Паланея і Даміцэля; але не надоўга, прымірыцца ім дапамагаюць дзеці п'яных дурняў — Мацейка і Кацярынка, якія кахаюцца і хочуць пажаніцца і таму вельмі зацікаўлены ў згодзе і дружбе бацькоў. Так што гэтым разам з-пад пяра драматурга выйшла тыповая камедыя "становішчаў", ці інтрыгі (у адрозненне ад камедыі характараў). Увесь яе смех трымаецца на камізме сітуацый, на непрадбачаных недарэчнасцях і, вядома ж, на дасціпных рэпліках персанажаў. Смех вясёлы, нястрымны, іскрысты, сапраўды народны выбухае з самой мовы камедыі. І чытач-глядач пачуваецца ўзнагароджаным і застаецца задаволеным. Так, выбуховы зарад смеху закладзены ў самой мове — жывой, гутарковай, абыдзённай мове народа. Але ж гэтай мовай трэба валодаць! Так, як валодаў ён, аўтар "Паўлінкі" і "Прымакоў".

П'есы, пра якія ішла дагэтуль гутарка, выраслі амаль цалкам з аднаго эстэтычнага грунту — нацыянальна-беларускага, з фальклорных і літаратурных традыцый нацыянальнай смехатворчасці. Думаю, не будзе перабольшаннем сказаць, што своеасаблівым выклікам для Купалы былі і камедыі яго сучаснікаў, іх поспех у гледачоў, — такіх, як "Модны шляхцюк" і "Двойчы прапілі" Каруся Каганца (абедзве — 1910 г.), "Не розумам сцяміў, а сэрцам" Касьяна Вясёлага (1910). Асабліва гэта датычыць камедый К. Каганца. Думаю, што гэтаму таленавітаму беларускаму адраджэнцу першага пакалення так і не аддадзена належнае ў плане падрыхтоўкі глебы для нараджэння драматургіі Купалы, у прыватнасці — яго камедый.

А вось для напісання драмы "Раскіданае гняздо" Купалу ўжо спатрэбіўся іншы эстэтычны досвед, іншая літаратурная і тэатральная школа. Гэтую школу, ужо ў сталым веку, ён прайшоў за чатыры гады жыцця (1909-1913) у Пецярбурзе — на агульнаадукацыйных курсах Чарняева, у размовах з прафесарам Б. Эпімах-Шыпілам, на кватэры ў якой жыў і за чый кошт вучыўся, і, напэўна ж, у пецярбургскіх таэтрах. У ліку пісьменнікаў, драматургічная творчасць якіх зрабіла на яго моцнае ўражанне і якім ён як драматург абавязаны сваім філасофска-эстэтычным сталеннем, былі: паляк С. Выспянскі, нарвежац Г. Ібсен, бельгіец М. Метэрлінк, расіяне А. Чэхаў, М. Горкі, Л. Андрэеў, Ф. Салагуб і інш. Без вывучкі ў гэтых сусветна вядомых майстроў драматургічнага слова паяўленне "Раскіданага гнязда" з яго характарнымі "жыхарамі" і характэрнай мастацкай мовай наўрад ці было б магчыма. Вядома, гаворка не можа ісці пра творчую залежнасць. Драма Купалы — твор глыбока самабытны: і задумай, і зместам, і паэтыкай. Калі паглядзець на яго маштабна і ўдумліва — гэта твор пра страшны, трагічны лёс Беларусі, а не адной сям'і Лявона Зябліка, якую зганяюць з вотчыннай сядзібы і якая нідзе не можа знайсці праўды, абароны, заступніцтва. Пры прачытанні недастаткова глыбокім п'еса ўспрымаецца як сацыяльная драма сялянскай сям'і — і толькі. Так яна і трактавалася доўгія дзесяткі гадоў у беларускім літаратуразнаўстве. З абагульненнем, канешне, што лёс Зяблікаў ёсць і лёсам многіх-многіх пазбаўленых уласнай зямлі сялян. "Купала ў "Раскіданым гняздзе", — чытаем у найноўшай акадэмічнай гісторыі літаратуры, — малюе драму выразна сялянскую".

*(Працяг на стар. 12)*

# Купалава рэха

## ЯНКА КУПАЛА Ў ВЫШЫВАНЦЫ

Некалі слынны наш Францішак Багушэвіч — Мацей Бурачок, разважаючы, як распазнаюцца народы, казаў, што гэта можна рабіць ці па вопратцы, хто якую носе, ці па гаворцы. Дык от, беларусы з спракавечнага часу, апрача сваёй самабытнай мовы, мелі і свой самабытны апратковы строй. І строй гэты — найперш нашы вышыванкі. Свае вышыванкі наш народ вельмі любіў, шанаваў, даражыў імі, апранаў іх на вялікія святы. У вышыванцы душа беларуса адчувала радасць, урачыстасць. Вышыванкі стваралі душу свята. Таму і любілі насіць вышыванкі і шмат якія дзеячы нашай літаратуры. Сярод іх і Янка Купала. Да нас дайшла пакуль толькі адна Купалава вышыванка. Яна перазахоўваецца ў фондах Купалавага музея. Пра гэтую Купалаву вышыванку ў картатэцы запісана вельмі скупа: "Кашуля з каўнерыкам-стойкай, з суровага палатна, вышыта сінімі ніткамі". А выглядае яна так: вышыўка кветкавая, дробная. Вышыўка на пасачцы, дзе звычайна гузікі і вышыўка на манжэтах. Вышываны і ніз кашулі. Гэткую кашулю Янка Купалы мусіў насіць на выпуск пад тканы арнаментаваны пасак з кутасікамі. У фондах Купалавага музея два такія паскі. Абодва Купалавы. Абодва з беларускімі арнаментамі. Адзін з іх вышываны шаўковымі ніткамі шэрага і рабінавага колеру. Янка Купала любіў нашы вышыванкі з маладых гадоў. Да нас дайшоў і Купалаў здымак з пецярбургскай пары, на якім мы бачым маладога песняра Беларусі ў вышыванцы сярод невялікага гурту студэнтаў. Здымак датуецца 1910 годам, зроблены, мусіць, з нагоды якойсьці мастацкай імпрэзы, бо і пецярбургскія студэнты — тры дзяўчыны з юнаком — таксама ў нацыянальных строях. Сама вышыванка прыкрыта якойсь камізэлькай, ці мо нават світкай. Адкрыты толькі каўнерык-стойка. Ён якраз густа вышыты ланцужком арнаментаваных кветак. Гэты ўзор, нібыта тое сонейка, асвечвае Купалава аблічча, ягоную душу, падкрэслівае яе паэтычнасць.

Сваю глыбокую павагу да беларускіх узораў Янка Купала падкрэсліваў і ў сваім штодзённым побыце хоць якой дэталькаю. Прыкладам, прыгожым тканым арнаментаваным гплыштукам. Быў у Янкі Купалы ў дваццатыя гады такі гальштучак. Купала вельмі яго любіў і шанаваў. Да нас якраз дайшлі два Купалавы здымкі з гэтай пары з гэтым гальштукам — з 1923 года і з 1924. Абодва здымкі незвычайна пранікнёныя, парывіста-задуменныя. У іх глыбокі роздум пра лёс Беларусі, яе прышласць і наступствы. Якраз гэтай парою Янка Купала прычакаў свой слынны зборнік "Спадчына".

## ТУКІ-ТУК, МАЛАТОК...

Дзень адзінаццатага траўня 1907 года стаў для Янкі Купалы незабыўным. У гэты дзень "Наша Ніва" надрукавала ягоны слынны верш "Касец". Гэта была першая Купалава вершаваная публікацыя ў беларускамоўным друку ў першай беларускамоўнай газеце. Для Янкі Купалы і для ўсёй Беларусі гэта была вялікая падзея. Ягоны верш "Касец" з першага погляду, з формы, мог падацца неспакушанаму чытачу просценькім. Але ці такі ён ужо просценькі?

*Стукі — стук, малаток,*
*Кляпі коску, мужычок!*

Такі пачатак верша і напраўду нібы дзіцячая рытмічная забаўлянка. Неспакушаны чытач па назве і першай страфе мог падумаць, што пясняр Янук Купала — менавіта з такім псеўданімам надрукаваны ў "Нашай Ніве" Купалаў верш "Касец" — натхняе касцоў на касавіцу.

Але вось пасля слоў: "Я вам песеньку спяю" — верш загучаў трывожна, ваяўніча, з напамінам, што "даўней народ быў хітры". Даўней — гэта калі? Ды ў 1863 годзе, тады, калі "коскі шаблямі былі, ваяваць з імі ішлі". От вам і стукі-стук, малаток.

У гэтым бунтоўным вершы ўжо закладзена аснова Купалавага маніфестычнага верша "А хто там ідзе?" З ягонай грамадою.

*"Грамада — вялікі гмах:*
*Адзін ляжа — сто ідзе,*
*Бо хто ж роўны грамадзе?*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Пяюць птушкі пад вакном*
*Лепшай долі даўно ждзём —*
*Годзе коску ўжо кляпаць,*
*Час з калодкі нам уставаць!*

Як нядзіўна, публікацыя гэтага верша — і аўтару, і самой "Нашай Ніве" — абышлася без скандалу. Мо не зразумелі? Але цяжка не зразумець:

*Дык і ты касу астры*
*І так скора раз — два — тры*
*Ідзі з ёю на вайну...*
*На вайну з травою ідзі,*
*Касі нізенька, глядзі:*
*Пяруны, грымоты б'юць,*
*Ты касі, адважны будзь!*
*. . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Смерць таму, хто не зышоў,*
*Касой рэзалі ўрагоў...*

Падчас гэтай публікацыі Янку Купалу было дваццаць пяць... На гэтую пару ў ім ужо была магутная паэтычная энергія, здатная да глыбокіх паэтычных абагульненняў, пра што якраз і сведчыць цытаваны тут першы Купалаўскі нашаніўскі верш "Касец" з яго забаўляльна рытмічным гульнявым пачаткам:

*Стукі — стук, малаток,*
*Кляпі коску, мужычок!*

## ВУЧЫЛІСЯ РАЗАМ

Гадоў колькі таму ў "Нашай Ніве" за 1910 год вычытаў, што ў Радашкавічы прыехаў новы святар і сваю першую імшу ў касцёле правёў па-беларуску. З тае пары я пачаў цікавіцца гэтым святаром і збіраць пра яго звесткі. Тады ж мне чыста выпадкова пашчасціла сустрэцца з ягонай пляменніцай Стэфай Вольскай. Ад яе я пачуў, што дзядзька Ян Вольскі знаўся з Янкам Купалам. Захаваўся запіс тае гутаркі: "Яны мо, мусіць, разам вучыліся. Не ведаю дзе, але знаю, што разам".

Я пацікавіўся, адкуль спадарыня Стэфа пра гэта ведае. Як высветлілася, ёй пра гэта расказаў Янаў брат Гжэсь, які вучыўся на доктара, і быў доктарам.

Я доўга думаў, наколькі праўдзівая звестка, што святар Ян Вольскі і Янка Купала вучыліся разам. І згадалася: у 1910 годзе Ян Вольскі скончыў пецярбургскую духоўную семінарыю. Якраз у 1910 годзе вычыўся на курсах Чарняева і Янка Купала. Там іхнія шляхі і скрыжаваліся.

Цікавая і Стэфіна трактоўка, як Янка Купала прабіваўся на літаратурны шлях. Паводле Стэфіных слоў "Купала надта быў талантлівы і ўсё розныя пісулькі пісаў, вершыкі. Але ўсё на польскай мове. Купала хацеў з панамі, з памешчыкамі хаўрусаваць. Але яны яго не прымалі, хоць Купала таксама нябедны быў. Але і не такі багаты, як памешчыкі, як паны. І от яны яго вершыкі не прымалі. І ў цэнзуру,у друк не пускалі. І тады Купала з гэтай абіды пачаў пісаць па-беларуску да людзей вясковых, пачаў паноў высмейваць..."

## АНЭЛЬКА

Мы вярталіся з Мікам Лавіцкім з Мігаўкі праз Павязынь. Бралася ўжо на вечар. Павязанцы чакалі каровак з пашы. Некаторыя павыходзілі на вуліцы сустракаць сваіх рагулек, паселі на лавачкі. Ля адной такой лавачкі мы тармазнулі і сказалі сваё звыклае магічнае: "Добры вечар! Мы шукаем учарашняга дня!"

— І што вы хацелі пачуць з учарашняга дня? — зацікаўлена спыталіся ў нас.

— Ну, скажам, ці былі ў вашай Павязыні знаныя бабкі-павітухі?

— Былі!.. Але ж гэта даўно было. Іх даўно няма...

— Былі! Але навошта вам гэта? Цяпер дзяцей родзяць у радзільных дамах...

І тут я мусіў патлумачыць: ідзе сто дваццатая гадавіна з часу народзінаў Янкі Купалы, а мы да гэтае пары не ведаем, хто была ягоная бабка-павітуха. А гэта ж цікава... Хто ж тая, што разам з парадзіхай пачула першае куга будучага песняра? То хто яна? Нам згадалі дзвюх навакольных бабак-павітух: Агатку Сай з суседніх з Вязынкай Селядчыцай ды Мар'ю Дварэцкую, якія магі быць Купалавымі павітухамі.

Так, Агатка Сай і напраўду была спрактыкаваная бабка-павітуха. Але яна не магла быць Купалавай павітухай, бо падчас народзінаў Яся Луцэвіча была яшчэ дзяўчынай. Нарадзілася яна ў 1864 годзе і на час народзінаў Янкі Купалы ёй было ўсяго васемнаццаць гадкоў. А бабкай павітухай павінна была быць сталая кабета, якая мела толк у такой святой справе як народзіны новага чалавека.

Што ж да Мар'і Дварэцкай, то яна была крыху старэйшая за Агатку Сай. Яна пражыла амаль сто чатыры гады, таксама спраўна прымала роды. Але ці яна ці хто іншы чараваў ля Купалы пры яго народзінах — нямаведама.

Я падзякаваў за павітух, і пацікавіўся, ці мае хоць хто якія Купалавы кнігі?

— Кніг няма маю. — Гэта кажа Яніна Бакун. — А от Купалаву "Паўлінку" ведаю. У нашай сям'і была свая Паўлінка...

Калісь мама мая, звалі яе Мальвіна, калі глядзела "Паўлінку", кожны раз казала: "Гэта не Паўлінка, гэта мая бабка Адэлька. І расказала такую гісторыю...

У яе дзеда была прыгажуня дачка Адэлька. Дзядуля быў заможны, на пана цягнуў. І што далей? Гэтая Адэлька злюбілася з наймітам-парабкам. І ўжо да шлюбу рыхтавалася. Як дачуўся пра гэта Адэльчын бацька, увесь узбунтаваўся, ускіпеў: "Ніколі такому не быць! Каб мая дачка да ды з пастухом!" І што робіць Адэлька? Змаўляецца з тым хлопцам і, як у "Паўлінцы" уцякае з бацькоўскага дому праз вакно і адтуль проста да касцёле, просяць у святара благаславення. Не паспеў святар як належыць і перамовіцца з маладымі, а тут як тут у касцёла і Адэльчын разгневаны бацька з пяцццю братамі. Бачыць святар, зараз не вянчанне, а бітва будзе. І што ён робіць? Гукае Адэльчынага бацьку з братамі ў нейкую касцёльную бакоўку, нібы на перамовы, а сам замыкае дзверы на ключ і вяртаецца да маладых і благаслаўляе іх да шлюбу. І толькі пасля гэтага выпускае з-пад свайго святарскага арышту Адэльчынага бацьку з братамі. Тыя на яго. А ён ім на гэта:

— Мы не можам ісці процію іхняй волі... Мы гэтым ім толькі нашкодзім... Гэта Божая воля. Калі б Адэлька была непаўналетняя, то іншая была б і мова. А ёй ужо дваццаць адзін і я не маю права раскідаць іхняе шчасце.

Выйшла Адэлька замуж у Валокі... А гадавалася ў Шаршунах. Гэта дзесь за Радашковічамі. Мая мама часта мне пра гэта расказвала. То і я ці калі па радыё чую "Паўлінку", ці так што згадваю пра яе, дык мне Адэлька наша ўспамінаецца.

## ДЗЕ ПАЎЛІНКА?

З блізкіх Янку Купалу людзей засталося няшмат. Адна з іх — ягоная пляменніца Ядвіга. Яна нарадзілася ў 1920 годзе. Не адзін год жыла пад адной страхой з паэтам і шмат чаго памятае, якія былі парадкі ў Купалавым доме. Неяк разгаварыліся пра паэтаву "Паўлінку". Я распавёў ёй гісторыю, пачутую пра Адэльку. Ядвіга Юльянаўна ўважліва выслухала яе і задуменна сказала:

— З гэтай Паўлінкай шмат загадкавага, таямнічага. — Прыгадваецца... Як і ў кожнай сям'і, і ў Купалавым доме надараліся розныя спрэчкі, якіясь нязгоды, ушчуванні. Былі яны часам у Купалы і з мацi. І тая, калі надаралася ў яе спрэчка з сынам, часта, не маючы больш ніякіх важкіх пераканаўчых довадаў, загадкава казала:

— А Паўлінка дзе?

На гэтым спрэчка адразу ж спынялася. Купала змаўкаў і йшоў спанураны ў сваю працоўню..

Што і да чаго тут — цяпер можна толькі гадаць, здагадвацца. А тады, калі гэта чула, спытацца не адважалася. Дый хіба гэта можна ўмешвацца, улазіць у размову больш сталых людзей?!

Гэтак і засталася для мяне загадкавым гэтае пытанне: "А Паўлінка дзе?!"

Што за ім — ведаў толькі хіба адзін Купала ды сама якаясь Паўлінка ды Купалава матуля — Бянігна.

## ДА БОГА Ў КАСЦЁЛ СВЯТОГА МАЦЕЯ

Адну пару, у 1904—1909 гадах, Луцэвічы жылі ў Бараўцах. Пра гэта якраз мая кніжачка "Тут бачу свой край". Калі я збіраў звесткі пра гэты кут, аднаго разу падумаў: "А дзе ж бараўскія каталікі, а разам з імі і Луцэвічы, правілі сваё набажэнства? Якога яны касцёла трымаліся?" Пацікавіўся пра гэта ў бараўскага люду. І пачуў: "А ў Халяўшчыне!.. Ездзілі ў Халяўшчыну... Там быў касцёл. Гэта за Астрашыцкім Гарадком".

Сёння гэты кут нам больш вядомы як Раўбічы. Даўней жа, у пару Купалавага юнацтва, увесь гэты абшар каталікі называлі не інакш як Халяўшчына. Назоў гэты маляўнічы кут атрымаў у гонар тутэйшага шляхціца Лукаша Халявы, які калісь падчас страшэннай навальніцы паратаваў абраз Маці Божай Карміліцы. З гэтай нагоды ў непаўторна маляўнічым куточку на высокім пагорку паблізу Горнаўкі па-над ракой Вушачай напачатку XVII стагоддзя і быў збудаваны рыма-каталіцкі храм Святога Мацея. От у гэтую святыню на вялікія святы і завітвалі Луцэвічы з Бараўцоў. Гэта амаль невядомы вернікам Раўбіцкага касцёла. Але хай з гэтага часу і яны ведаюць, што ў іхнім касцёле адну пару маліліся Богу бацькі і сёстры вялікага песняра. А разам з бацькамі пэўна ж і сам Янка Купала.

Зараз у гэтым касцёле этнаграфічны музей. Але вернікі з навакольных вёсак дамагаюцца, каб святыня зноў сталася святыняю. Хай жа ў гэтым ім паспрые і песнярова імя!

## ВАРУНКІ ЧАСУ

Разважаючы пра першапублікацыю Купалавага верша "А хто там ідзе?", я здзівіўся, што ён не быў надрукаваны аператыўна ў "Нашай Ніве", а толькі ў "Жалейцы", а затым быў выдадзены асобнай буклеткай. Чаму? Пасля пэўных разваг прыйшоў да высновы: нашаніўцы даражылі сваёй газетай, аберагалі яе. Публікацыя такога верша, як "А хто там ідзе?", у якім абвяшчалася жаданне беларусаў "людзьмі звацца", магла зрабіць прыкрасць газеце. Яе маглі аддаць пад суд, знайсці адпаведны артыкул і арыштаваць, ліквідаваць. На гэта Уласаў, вядома, не мог пайсці. Ён сам толькі што выйшаў з фартэцыі (астрога) — між іншым, за досыць вострую публікацыю ў "Нашай Ніве". Гэта было яму папярэджанне. То ці мог ён рызыкаваць сцягам Беларусі - —беларускім звонам, які была выпакутаваная ім і ягонымі аднадумцамі "Наша Ніва"?! Іншая рэч буклетка з вершам "А хто там ідзе?". Яе, калі і канфіскуюць, то толькі буклетку, а газета застанецца.

Пэўна, такімі меркаваннямі кіраваўся А. Уласаў ды іншыя ягоныя прабрацімы, калі выдавалі асобным выданнем славуты Купалаў верш "А хто там ідзе?", які стаў сцягам і гімнам Беларусі, пакуль яна не здабыла дзяржаўнасць.

## МЫ — БЕЛАРУСЫ

Гэта бясспрэчна — прырода надзяліла Янку Купалу незвычайным талентам. Гэта быў прыродны талент — талент ад Бога. Пераважную большасць сваіх твораў, вершаў-песняў Янка Купала стварыў не ў пісьмовых кабінетах, нават не ў вясковай хаце: "Як я ў хатку ўвайду, мяне мысль ні гняце...", а ў дарозе, у хадзе. Ягоныя вершы-песні выплывалі з яго душы нязмушана, як вада з крынічкі. Да прыкладу, ён полем ідзе:

*Як я полем іду, гнеціа колас ка мне,*
*З ім маркотнай душой*
*ціха шэпты вяду,*
*Колас чуе ўсё ў зачарованым сне, —*
*Колас гнецца ка мне, як я полем іду.*
*А от што адчувае песняр,*
*як ён лугам ідзе:*
*Як я лугам іду, траўка сцелецца*
*ў ног.*
*Абсыпае з сябе жыўчых росак ваду;*
*Кветкі жаляцца мне —*
*поўных дзіўных знямог, —*
*Траўка сцелецца ў ног,*
*як я лугам іду.*

І гэтак было заўсёды, усюды і скрозь. Купала не меў пакуты з словам. Словы да яго самі адкульсь ішлі-плылі. Ішлі і спалучаліся ў такія дзівосныя спавіны між сабою, што неўпрыкмет рабіліся крылатымі, афарыстычнымі, меладыйнымі. Сёння між намі вельмі гаваркое прывітанне-воклiч "Жыве Беларусь". Але далёка не ўсе на Беларусі ведаюць, што яно прыйшло да нас з славутага Купалавага верша "Гэта крык, што жыве Беларусь", які вырваўся з песняровай душы дзесь яшчэ на пачатку ягонага творчага шляху. Згаданыя Купалавы словы былі напамінкам свету, што на зямлі ёсць такая краіна і яна жыве. Але хтось з удумлівых Купалавых чытачоў адчуў, што гэтыя словы могуць быць вітаннем — напамінкам і між суайчыннікамі. З тае пары мы і вітаем адзін аднаго гэтым парывістым воклічам, выказваючы сваю адданасць роднаму краю, — Беларусі, Бацькаўшчыне.

Не гэтак даўно я перачытваў Купалаў публіцыстычны артыкул "Справа беларускага нацыянальнага гімна". У ім ёсць такія радкі: "**Мы, беларусы**, дзякуючы ўсялякім гістарычным і палітычным безгалоўям нашай Бацькаўшчыне вечна цягнуліся ў хвасце сваіх суседзяў ды і яшчэ цяпер не можам у шмат якіх справах раўняцца з імі..."

Калі я прачытаў першыя словы гэтае Купалавае развагі, згадалася з гэтых жа слоў "**Мы, беларусы**..." пачынаўся наш нядаўні беларускі гімн савецкай пары на словы Міхася Клімковіча. Не сумняваюся, менавіта гэтыя Купалавы словы сталіся штуршком, творчым спасылам, пачаткам напісання верша "Мы — беларусы". Міхась Клімковіч, уяўляецца, як і кожны творца, узяўшыся за напісанне твора на гімн, мусіў паглядзець, пачытаць, што ж наша літаратура мае з гэтай нагоды. І от натрапіў на вельмі сур'ёзны Купалаў артыкул-развагу. Калі прачытаў гэтае Купала "Мы, беларусы...", ухапіўся за гэтыя словы і ўжо далей раскруціў свой твор у адпаведным тагачасным ідэалагічным кірунку. Але штуршком, спасылкай да напісання верша "Мы — беларусы" на гімн з'явіўся Янка Купала з сваім артыкулам "Справа беларускага нацыянальнага гімна" — такі магутны геній беларускай думкі Янка Купала. Невыпадкова ж ён сам пра сябе казаў: "Цяпер я беларускай песні ўладар!" Між іншым, акцэнт "Мы — беларусы" быў колісь у Янкі Купалы вельмі ходавы. З яго пачынаецца і Купалаў артыкул "Больш самачыннасці". І гэта натуральна. Кажучы запаветныя думкі ад імя народа, Янка Купала не мог інакш казаць, як казаў: "Мы — беларусы". І мы ўслед за Прарокам кажам: "Мы — беларусы". Не тутэйшыя, як гэта зусім нядаўна практыкавалася ў краі, а беларусы.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

## У вянок песнярам

Літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа актыўна і плённа супрацоўнічае з навучальнымі ўстановамі. Цікавае і змястоўнае мерапрыемства, прысвечанае 120-годдзю Купалы і Коласа, музейцы правялі ў Ваеннай Акадэміі.

На сустрэчу з вайсоўцамі і курсантамі прыехалі сын Якуба Коласа — Міхась Міцкевіч, доктар тэхнічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, майстар спорту; Пятро Прыходзька, старэйшына нашай паэзіі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова, ветэран вайны, палкоўнік у адстаўцы; вядучы навуковы супрацоўнік Літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, літаратуразнаўца Міхал Пратасевіч; старшы навуковы супрацоўнік музея, паэт Іван Курбека; прыхільнік творчасці песняра, вядучы канструктар Мінскага завода колавых цягачоў, кандыдат тэхнічных навук Язэп Гарэцкі. Адкрыў сустрэчу падпалкоўнік Канстанцін Мордань, а вёў яе М. Пратасевіч.

Пра жыццё і творчасць Купалы і Коласа напісана не мала артыкулаў, даследаванняў і кніг, у якіх адзначаецца іх шчырая дружба. Але словы сына Коласа — Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча — пра ўзаемаадносіны нашых песняроў вельмі зацікавілі прысутных. У вобразнай, займальнай манеры (талент расказчыка перадаўся ад бацькі) ён расказаў пра першую сустрэчу паэтаў, якая адбылася 90 гадоў таму. З пачатку 20-х і да вайны яны жылі ў Мінску, і з прыемнасцю гасцявалі адзін у другога. Пры сустрэчах абмяркоўвалі творчыя і жыццёвыя праблемы, гулялі ў шахматы...

Са сваімі вершамі выступіў паэт Пятро Прыходзька.

Прысутныя ў зале весела ўсміхаліся, калі Язэп Гарэцкі з уласцівай яму артыстычнасцю дэкламаваў раздзел "Дзядзька-Кухар" з паэмы "Новая зямля".

Паэт Іван Курбека павесяліў слухачоў сваімі гумарэскамі і каламбурамі.

**Эмілія П.**

## На зямлі Баяна

У горадзе Трубчэўску Бранскай вобласці адбылося міжрэгіянальнае свята славянскай пісьменнасці і народнай творчасці «На зямлі Баяна». У ім прыняла ўдзел і дэлегацыя Гомельскай вобласці. Народны вакальна-харэаграфічны ансамбль «Рудабельская пацеха» з г. п. Акцябрскі (мастацкі кіраўнік Т. Сайкоўская) атрымаў высокую ацэнку не толькі ў гледачоў, але і ў аргкамітэта свята. А пісьменніку Васілю Ткачову народная артыстка СССР Зінаіда Кірыенка ўручыла дыплом лаўрэата прэміі імя Баяна — за дастойны ўклад у захаванне і развіццё культурных традыцый і ўмацаванне дружбы паміж братнімі славянскімі народамі.

**В. БАРХАНАЎ**

г. Гомель

## Вершы твораць цуд

Не гэтак даўно ў Зэльвенскай раённай газеце "Праца" было змешчана інтэрв'ю з Уладзімірам Мазго, які спадзяваўся вынесці на суд землякоў новы паэтычны зборнік. І вось з кнігай для дзяцей "Прыгоды марахода" паэт прыехаў у любую сэрцу Зэльву. З нецярпеннем чакалі яго ў роднай школе № 2 дзеці і настаўнікі.

Вершы Уладзіміра Мазго моцна кранаюць душу. Памятаю, калі шукала верш паэта, які змог бы пакласці на музыку наш мясцовы кампазітар Аляксандр Сямёнчык, то была ўражана "Вяртаннем", прысвечаным памяці бацькоў. Кампазітар таксама спыніўся на гэтым вершы і стварыў цудоўную песню, якую выканала на першай сустрэчы Уладзіміра Мазго з вучнямі нашай школы спявачка Станіслава Прызван. Так адзін талент аб'ядноўвае вакол сябе іншыя. Паэт — музыкант — спявачка... Менавіта трыо таленавітых зэльвенцаў стварыла цуд, сведкамі якога сталі многія слухачы.

І вось нядаўна выдавецтва "Юнацтва" парадавала чытачоў новай кнігай нашага земляка — "Прыгоды марахода", якая складзена з казак, вершаў, загадак, песень, скорагаворак, пацешак.

Некалькі гадзін запар у перапоўненай актавай зале сярэдняй школы № 2 адбывалася прэм'ера новага выдання. Паэт чытаў свае творы, адказваў на шматлікія пытанні чытачоў, дзяліўся развагамі пра стан сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры. Многія ўдзельнікі гэтай цікавай сустрэчы з радасцю атрымалі новую кнігу з аўтографам пісьменніка.

**Яніна ШМАТКО,**
загадчыца бібліятэкі СШ № 2 г.п. Зэльва

# Гусляр — метафара паэта

### ПАЭЗІЯ ЯНКІ КУПАЛЫ Ў ТВОРЧАСЦІ БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ

*Гуслі строіць свае, струны*
*звонка звіняць,*
*Жменяй водзіць па іх абамлелай,*
*І ўсё нешта пяе, што*
*жывым не паняць,*
*І на месяц глядзіць, як сам, белы.*
*Кажуць, каб хто калі*
*зразумеў голас той,*
*Не зазнаў бы ніколі ўжо гора...*
*Можна тут веру даць,*
*толькі слухаць душой...*
*Курганы шмат чаго нам гавораць.*

**Я. Купала. Паэма "Курган"**

30 мая 2002 года ў малым зале Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Яна складаецца з твораў вядомых беларускіх мастакоў XX стагоддзя — графікаў В. Александровіча, М. Басалыгі, Б. Заборава, А. Кашкурэвіча, Г. Паплаўскага, Я. Раманоўскага, Ю. Тышкевіча, В. Шаранговіча. Аснову экспазіцыі склалі графічныя аркушы, выкананыя паводле паэтычнай спадчыны Я. Купалы 1905—1913 гадоў, калі Пясняр заявіў пра сябе, як выразнік народных дум і памкненняў, пачынальнік беларускага культурнага Адраджэння. Паэтычнымі першакрыніцамі натхнення мастакоў сталі паэма-трагедыя "Адвечная песня" — аб імкненні селяніна да шчасця, фальклорна-рамантычная паэма "Курган", паэма "Магіла льва" — галоўная тэма якой — узаемаадносіны асобы і народа, "Бандароўна" — эпічная песня аб героіцы народнага змагання, драматычная паэма "Яна і я", узняты Паэтам да ўзроўню нацыянальнага сімвала верш "А хто там ідзе?" і інш.

Радзіма, Народ і Паэт — вобразы, якія найбольш хвалявалі Купалу, сталі асноўнай тэмай прадстаўленых твораў выяўленчага мастацтва. У большасці сваёй яны перавышаюць задачы ілюстрацыі, уздымаючыся да ўзроўню самастойнага твора.

Вырашэнне вобраза Гусляра з'яўляецца стрыжнёвай тэмай экспазіцыі. Гусляр — абаронца Праўды і ахвяра змагання за яе. Яго вобраз — метафара Паэта — падаецца шматгранна. Нездарма эпіграфам выстаўкі сталі словы з паэмы "Курган".

Творчасць народных мастакоў Беларусі А. Кашкурэвіча, Г. Паплаўскага, В. Шаранговіча прадстаўлена кампазіцыямі і ілюстрацыямі да паэм "Курган", "Бандароўна", "Яна і я" і інш.

У абрысоўцы вобразаў герояў А. Кашкурэвіч робіць акцэнт на выкарыстанне "буйнага" плана з дакладнымі псіхалагічнымі вызначэннямі ў абрысоўцы станоўчага ці адмоўнага персанажа. Яго ілюстрацыі да паэм "Бандароўна", "Курган", "Яна і я", выкананыя ў 1970 годзе, даюць магчымасць адчуць рытміку драматычнага зместу і экспрэсію аўтарскага слова. Характэрнымі асаблівасцямі мастацкага стылю Кашкурэвіча з'яўляюцца дынамічнасць, кантрастнасць святлаценю, рэзкая штрыхавая лінія. Моцныя рытмічныя гукі паэмы "Курган" спрыялі фарміраванню своеасаблівага падыходу ў адлюстраванні паказу герояў, якімі з'яўляюцца Гусляр і Князь. Яны антыподы, але яны — лідэры, і мастак знаходзіць для кожнага з іх патрэбныя мастацкія прыёмы. Гусляр-Пясняр трактуецца А. Кашкурэвічам як метафара Творцы ў час натхнення. Менавіта ў гэты час, на думку мастака, адбываецца свяшчэннадзеянне — мы павінны адчуць яго геніяльнасць прадказанні. А вырашэнні вобраза Князя ілюструе другі, ужо супрацьлеглы, бок барацьбы.

Выяўленне лірыка-эпічнага настрою сюжэтаў паэмы "Яна і я" — вось задача, якую ставіў перад сабой Г. Паплаўскі. Раўнавагу кампазіцый трымаюць вертыкальныя лініі. Сярэбраны колер надае вобразам апавядальна-казачны настрой, які аб'ядноўвае ўсе дэталі аркушаў. Гэтымі часткамі жыцця становяцца сонца, дрэвы, буслы, дарогі, што дае магчымасць падкрэсліць ідэю адзінства і цэласнасці свету. Мастак змог знайсці, так бы мовіць, адзінства з Паэтам праз патрэбныя мастацкія сродкі: штодзённая будзённая праца выяўлена прыёмамі ўзбуйнення і велічнасці. Вобраз Гусляра ў Г. Паплаўскага ўспрымаецца адназначна: ён — адзінае цэлае з лёсам народа. Народ разумее і давярае свайму Паэту.

У інтэрпрэтацыі В. Шаранговіча трагізм і эпічнасць паэм "Курган" і "Магіла льва" вырашаны іншымі сродкамі. Тут і філасофскае абагульненне, і мастацкая выразнасць. Вобразы Гусляра і Машэкі — сімвалы сілы і моцы народнага духу. Яны набываюць манументальна-эпічнае гучанне. Мастацкае ўвасабленне вобраза







Гусляра прадстаўлена з выразнасцю паэмы аб героях, што аддаюць свае жыцці на карысць праўды і святла. Гусляр В. Шаранговіча — чалавек моцны, ён пройдзе праз усе перашкоды. Абагульнены, манументальна вызначаны, вобраз Паэта ўспрымаецца сапраўдным змагаром. Менавіта такімі застаюцца героі ў памяці народа, бо з іх вуснаў "зрываюцца" словы-прызывы да барацьбы супраць прыгнятальнікаў.

У ілюстрацыях да паэмы "Курган" у выкананні М. Басалыгі вобраз Гусляра на фоне натоўпу ворагаў трактуецца як белы крыж — сімвал дабра ў адвечнай барацьбе са злом. Прадстаўленая серыя — прыклад пранікнёнага прачытання твора, што дае магчымасць прыблізіць вобраз Гусляра да нашых дзён. Мастак звяртаецца да прыёмаў класічнага мастацтва, калі ўжо вядомы сюжэт, які пры дапамозе мастацкіх сродкаў набывае новае гучанне. Ставіцца пытанне аб ролі Мастака ў жыцці грамадства, і прыёмы метафары дапамагаюць шырэй разгарнуць галоўную ідэю-падзею як гістарычны факт. Мы бачым своеасаблівую шахматную дошку з фігурамі — нібыта поле барацьбы дабра і зла.

Серыя каляровых літаграфій В. Александровіча па матывах паэмы "Адвечная песня" зроблена ў 1979 годзе. Паказ лёсу чалавека адбываецца праз параўнанне працаўніка-Мужыка з багіняй-Прыродай — жанчынай дзіўноснай прыгажосці. Спалучэнне этнаграфічнай дакладнасці са стылізацыяй мастацкай формы ў кампазіцыях "Нараджэнне", Хрэсьбіны", "Вяселле", "Смерць" вылучаюць характэрныя якасці аўтарскага почырку. Мастак ставіў задачу сінтэзу навуковых ведаў з мастацкімі сродкамі, выкарыстоўваючы ўсе вядомыя магчымасці тэхнікі гравюры.

Серыя Б. Заборава складаецца з аркушаў пад назвамі: "Калыхала маці сына", "Янка Купала", "Гусляр", "Партызаны". На думку мастака — гэта тыя моманты, якія вызначалі светапогляд, самасвядомасць і грамадзянскую пазіцыю Купалы. Графічная мова эстампаў адлюстроўвае пошукі 70-х гадоў, якім была ўласціва выразнасць плакатнага абагульнення. Партрэт Я. Купалы ў поўны рост пададзены на фоне беларускай прыроды, што сімвалізуе ўсенароднае прызнанне таленту. Лясны матыў з азёрамі, небам і зямлёй — вось мясціны вобразаў. Фігура Лірніка з паднятай рукой падобна вяршыцелю лёсаў. Ён — метафара самога Купалы. Фігура выразна прачытваецца ў сусветнай прасторы, сімвалізуючы адкрытасць яго думак і спраў.

Лірыка-эпічнае гучанне тэмы радзімы Паэта характарызуе серыю пейзажаў Ю. Тышкевіча 1968 года. Вёска Вязынка прадстае перад гледачом як найпрыгажэйшае месца Беларусі. Адносіны мастака да Радзімы Янкі Купалы выключна пяшчотныя: нібыта святлом напоўнены гэтыя далягляды, дзе дрэвы, зямля з хатамі — калыска вялікага паэта. Задача, якую ставіў Ю. Тышкевіч, вырашалася ў беларускай гравюры новымі жанрамі лырыка-эпічнага пейзажа. Характэрнымі асаблівасцямі твораў з'яўляюцца асаблівыя адносіны аўтара да перадачы прасторы з падрабязнымі вызначэннямі планаў, дзе ўвага найперш надаецца лініям рознай выразнасці.

Аркуш Я. Раманоўскага "А хто там ідзе?" — частка яго серыі "Янка Купала" 1959 года. Паэт і народ — галоўная тэма гравюры, створанай паводле аднайменнага верша паэта і вырашанай манументальнымі сродкамі. Купала ў "агромістай грамадзе" вылучаны ў цэнтры народа, што складае выразны скульптурны сілуэт. Такая трактоўка Паэта і народа мае свае традыцыі ў беларускім мастацтве. Тэма раскрываецца праз разуменне той ролі, якую адыгрывае Янка Купала для беларусаў. Ён — носьбіт нацыянальнай ідэі, Пясняр думак свайго народа, абаронца яго інтарэсаў.

Выстаўка ўключае ў сябе тры скульптурныя творы А. Грубэ, А. Бембеля і Л. Гумілеўскага з вобразамі Гусляра, партрэтам Янкі Купалы і "Хлопчыкам, які грае на жалейцы".

**Людміла НАЛІВАЙКА,**
**кандыдат мастацтвазнаўства В. Н. С. аддзела сучаснага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея РБ.**

# Невядомыя аўтографы






У Дзяржаўным Літаратурным музеі Янкі Купалы захоўваецца фатаграфія-арыгінал Яна Шэмета (Францішка Палачанскага). Ды і як ёй тут не быць. На ёй два дарагія нам аўтографы: на адваротным баку здымка аўтограф Янкі Купалы — "Францішак Палачанскі напісаў паэму "Даўгінаўскі пагром і цэлы шэраг іншых вершаў". Амаль тое самае напісана прыгожым каліграфічным почыркам (лацінкай) прафесарам Б. І. Эпімах-Шыпілам (1859—1934). Паўстае пытанне: калі і дзе былі зроблены гэтыя аўтографы? Хутчэй за ўсё — у Пецярбургу, калі вёўся пошук гэтага таленавітага беларускага паэта, яго жыццяпіса, рукапісаў і фотаздымкаў. Янка Купала ў той час вучыўся ў Санкт-Пецярбургу на Агульнаадукацыйных курсах Чарняева і жыў на кватэры ў Браніслава Эпімах-Шыпілы з 1909—1913 г., Васілеўскім востраве 4-я лінія д. 45. Там, на гэтым доме ў 1955 г. была ўстаноўлена мемарыяльная дошка, прысвечаная Янку Купалу.

Тое, што датычыцца паэтычнай творчасці Францішка Палачанскага, то ім былі напісаны вершы і паэмы, некаторыя з іх на гістарычныя тэмы. Так, вершы: "Барысаў камень", "Вяселле ў Беляка", "Да братоў у пакоях", "За чаркай", "На дзяды", "Думы ў полі" і многія іншыя.

У паэме "Ашмянская рэзь" адлюстравана гістарычная старонка падзей падчас паўстання 1831 г. на Беларусі.

Другая паэма "Даўгінаўскі пагром" была напісана значна пазней і, па легендзе, пачыналася радкамі:

***"У мястэчку Даўгінове***
***Узбунтаваліся панове..."***

Творчасцю Яна Шэмета (Францішка Палачанскага) цікавіліся многія вучоныя і даследчыкі, шукалі яго рукапісы і фатаграфіі, звесткі да біяграфіі. Ужо маючы ў руках гэтую фатаграфію, я таксама старалася высветліць яго лёс і лёс яго духоўнай спадчыны.

Аднаго разу мне давялося гутарыць з беларускай пісьменніцай Леанілай Усціпаўснай Чарняўскай. Яна мне паведаміла, што Ян Шэмет (Францішак Палачанскі) жыў на станцыі Крывічы, што каля Палачан. Ён быў жанаты, меў 5 дачок. Адна з іх — Эмілія — была замужам за яе дзядзькам Іванам Чарняўскім. Брат Ф. Палачанскага прымаў удзел у паўстанні 1863 г. і быў высланы. Большае і дакладнае даследаванне зрабіў на падставе архіўных матэрыялаў вядомы гісторык, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук Генадзь Васільевіч Кісялёў у кнізе "Радаводнае дрэва" ў раздзеле "Слядамі Шэмета-Палачанскага".

Францішак Палачанскі памёр 9 жніўня 1905 г.

Дзе пахаваны, мне невядома. Невядомай застаецца і яго творчая спадчына.

**Ядвіга**
**РАМАНОЎСКАЯ**

# Гучаць мелодыі ў Доме Купалы

Непаўторна прыгожы вясновы надвячорак. Каля філармоніі мноства людзей. Твары то ўрачыстыя, то ўзбуджаныя, то радасна-ўстрывожаныя. Колькі разоў чулася пытанне, ці няма лішняга білецік?.. Хацелася дапамагчы ўсім тым, хто марыў трапіць на канцэрт заслужанага калектыву Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесара Міхаіла Фінберга.

І вось нарэшце рака народу рушыла ў залу. Не засталося ніводнай вольнай мясціны. Загучалі першыя мелодыі і першыя апладысменты...

Музыка кіно... Мелодыі Дунаеўскага, Свірыдава, Догі, Цікоцкага, Алоўнікава... Бездакорнае выканне выклікала захапленне залы. Мелодыі кіно вярталі ўсіх на дзесяцігоддзі ў мінулае, прымушалі перажыць у імгненне дзяцінства і маладосць, сталасць і моманты найвялікшай закаханасці, уваскрашалі даўно забытае з жыцця кожнага, каму пашчасціла быць гэтым вечарам у зале філармоніі.

Дзве з паловай гадзіны праляцелі як адно імгненне. А людзі не спяшаліся пакідаць залу. Выходзілі моўчкі, бо кожны прыслухоўваўся да абуджанай мелодыі душы...

І так заўсёды бывае пасля сустрэчы з таленавітым калектывам, які ўзначальвае Фінберг. Чым больш пазнаеш яго, тым больш здзіўляешся і захапляешся ім. Не толькі незвычайнай працаздольнасцю, а нейкай хлебаробскай цягавітасцю, адданасцю справе, нечаканымі паваротамі на жыццёвых дарогах, яго сур'ёзнасцю і неардынарнасцю.

Супрацоўнікі Купалаўскага музея былі ўражаны, калі ў юбілейны год паэта прафесар М. Фінберг прапанаваў правесці цыкл канцэртаў у Доме Купалы. Здзіўленне было яшчэ большым, калі зразумелі, што гэта не спантанна, а ўзважана: распрацавана праграма, агульная і кожнага канцэрта ў асобку; улічаны нават памеры актавай залы музея, а таму праграмы розлічаны толькі для камерных ансамбляў, што ўваходзяць у склад вялікага аркестравага калектыву; прадугледжана і тое, каб канцэрты-вечары неслі веды, пазнанне і вялікую эстэтычную асалоду. Улічаны і кантынгент слухачоў — пераважна вучні і студэнты...

І вось першы канцэрт-сустрэча ў музеі Янкі Купалы. Зала перапоўнена. На адкрыцці, вядома ж, прысутнічае і сам маэстра Міхаіл Фінберг. Усё тая ж абаяльная, шчырая ўсмешка на твары і вельмі нешматслоўнае выступленне, як бы ўсё перадаверана гукам музыкі, чароўным мелодыям і здольным выканаўцам.

І вось ужо каторы месяц напаўняецца чароўнымі мелодыямі Дом Купалы. Гучаць старажытныя і сучасныя творы як беларускіх кампазітараў, так і кампазітараў іншых народаў. У праграме значацца творы Штрауса і Рымскага-Корсакава, Агінскага і Аладава, Моцарта і Орды, Шапэна і Іванова...

І кожны раз слухачы перажываюць хвіліны вялікага шчасця ад сустрэчы з сапраўдным мастацтвам. Вучні і студэнты — слухачы вельмі непасрэдныя. Пасля кожнага таленавіта выкананага твора раздаюцца шчырыя і дружныя воплескі. Але колькі разоў было і такое, што інструменты змоўклі, а ў зале пануе цішыня — ні гуку, быццам усё замерла, не чуваць нават прытоенага дыхання слухачоў... А потым гэтую абсалютную цішыню ўзрывае гром апладысментаў, шчырых, заўзятых... Ці не гэта найвышэйшая ацэнка і ўдзячнасць юных слухачоў за тыя непаўторныя хвіліны сустрэчы з высокім мастацтвам?!.

Трэба зазначыць і тое, што канцэрты-сустрэчы ў Доме Купалы тактоўна і асцярожна ўводзяць слухача ў дзівосны свет сур'ёзнай музыкі. І гэта зноў-такі прапанова Фінберга, каб у юбілейны год як мага больш людзей далучыць да музычнай Купаліяны. А ў рэпертуары калектыву сёння больш за дваццаць твораў на словы Янкі Купалы, побач з якімі гучаць сімфоніі і араторыі, песні і рамансы, урыўкі з драматычных паэм. Літаратурна-музычныя вечары ў Доме Купалы праходзяць пры ўдзеле музыказнаўцы Вольгі Дадзіёмавай, якая можа проста расказаць пра самыя складаныя рэчы, знаёміць слухачоў і аркестрантаў, вядзе аповед пра магчымасці кожнага інструмента, пра лёс кожнага музычнага твора, такі непаўторны, як і чалавечы...

Сапраўды, у Беларусі многім вядома імя Міхала Клеафаса Агінскага — аўтара славутых паланезаў, полек. Але мала хто памятае, што настаўнікам Агінскіх яшчэ ў Троках быў Восіп Казлоўскі (1757—1831) — таленавіты аўтар цудоўных паланезаў. У Слоніме ён браў удзел у рабоце капэлы опернага тэатра, пабудаванага Агінскім. З 1786 года Восіп Казлоўскі жыў і працаваў у Расіі пры імператарскім двары. Там ім была напісана музыка да драматычных спектакляў, а ў галіне вакальнай лірыкі ён стаў заснавальнікам рамантычнага рамаса.

Наведвальнікі музычных вечароў даведаліся і пра тое, што беларускі рамантык Напалеон Орда (11.02.1807, в. Варацэвічы Пінскага павета Мінскай губерні), графік і кампазітар, сваю творчасць цесна звязаў з жыццём Беларусі і Польшчы. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі і Віленскім універсітэце, удзельнічаў у паўстанні 1830—1831 гадоў, вандраваў па Еўропе (Аўстрыя, Швейцарыя, Італія), з канца 30-х гадоў жыў у Парыжы, сябраваў з Ф. Шапэнам і А. Міцкевічам, напісаў шэраг музычных твораў. Мастацкую адукацыю атрымаў у студыі П. Жырара. У 1856 гозе вярнуўся на радзіму, жыў у Пінску. Пісаў музычныя творы і рабіў замалёўкі архітэктурных помнікаў роднага краю...

Першымі на сустрэчу з наведвальнікамі Дома Купалы завіталі ансамбль салістаў на драўляных духавых інструментах і ансамбль трубачоў, які носіць назву "Інтрада", што азначае ў перакладзе з лацінскай мовы "уступ", "уводзіны". І гэта сімвалічна. Яны сапраўды як бы ўводзілі слухачоў у цудоўны храм музыкі, у свет мастацтва без межаў.

Ансамбль флейтыстаў узяў сабе назву "Сірынкс", што надае яму таямнічасць, бо назва звязана са старажытнай міфалогіяй. Само слова мае грэчаскае паходжанне (syrinx), што азначае "трубка". Флейта — старажытнейшы інструмент. Можа, таму яго паходжанне вучоныя-музыказнаўцы звязваюць з міфам "Флейта Пана".

Міф і чароўную казку, цудоўныя мелодыі, надзвычайны прафесіяналізм, майстэрства і глыбокія веды прынеслі ў Дом Купалы творцы заслужанага калектыву Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.

**Алена БУРБОЎСКАЯ,**
**вучоны сакратар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы**

МУЗЫКА

# ...І застаецца "Спадчына"

## З Ігарам ЛУЧАНКОМ, СТАРШЫНЁЙ БЕЛАРУСКАГА САЮЗА КАМПАЗІТАРАЎ, НАРОДНЫМ АРТЫСТАМ СССР ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ "ЛіМА"

**— Ігар Міхайлавіч, ваша музыка, у вобразным сэнсе, апявае імя і талент Янкі Купалы. Прынамсі, вы — аўтар мелодыі, якая ідэальна спалучылася з паэтычным крэда Купалы і дала жыццё цудоўнай беларускай песні "Спадчына". Апроч гэтага папулярнага ўзору сучаснай песеннай класікі ёсць нямала іншых яркіх прыкладаў увасаблення Купалавага слова ў вашай творчасці...**

— Але ж не толькі маёй! Калі вы пагартаеце даведнік Беларускага саюза кампазітараў, дык заўважыце, што вельмі многія з маіх калег звярталіся да творчасці Янкі Купалы. Тут можна ўспомніць музыку Я. Цікоцкага да пастаноўкі п'есы "Паўлінка", хрэстаматыйную кантату нашага патрыярха А. Багатырова "Беларускім партызанам"; "Машэку" Р. Пукста і яго раманс "Шумныя бярозы"; знакамітую песню Ю. Семянякі "Явар і каліна", яго аперэту "Паўлінка"; балеты Я. Глебава "Выбранніца" і "Курган"; араторыю Д. Смольскага "Паэт", песенныя цыклы У. Мулявіна. Назаву яшчэ паэму "Янка Купала" В. Помазава, адзначаную ў свой час Дзяржаўнай прэміяй Беларусі, "Бандароўну" Г. Гарэлавай, кантатна-араторыяльныя творы, рамансы, хоры У. Кандрусевіча, С. Бельцюкова, А. Літвіноўскага, Я. Паплаўскага, Л. Мурашкі, А, Елісеенкава... Усё, вядома, не пералічыш.

**— Пагаворым пра вашу творчасць.**

— Бадай, упершыню я судакрануўся з паэзіяй Купалы ў сваёй творчасці роўна 40 гадоў таму, калі працаваў над дыпломнай работай у кансерваторыі. Гэта была кантата "Курган". Амаль праз 10 гадоў, у 1971-м, на яе аснове была створана рок-опера "Гусляр". Дзякуючы ўвасабленню "Песнярамі" з Уладзімірам Мулявіным яна сталася класікай у сваім жанры. Прыемна, што рок-опера "Гусляр" выдадзена на кампактдысках, у тым ліку ў Швейцарыі. Нядаўна Літаратурны музей Янкі Купалы папрасіў у мяне і гэты дыск для выкарыстання ў юбілейных імпрэзах, і касету з песняй "Спадчына".

**— У музеі захоўваецца незвычайны экспанат — прыз песні "Спадчына". Калісьці вы распавядалі пра гэты факт яе "біяграфіі".**

— Дэталі ўжо забываюцца. Але паспрабую ўспомніць... Гэта быў 1973 год, 20—22 красавіка. У Японіі праходзіў конкурс, на якім спаборнічалі як спевакі, так і песні. Было больш чым 30 удзельнікаў з розных краін. Ад СССР паехаў адзіны прадстаўнік — наш Віктар Вуячыч, з песняй "Спадчына". Выканаў яе на конкурсе — і прывёз з Японіі прыз, якім была адзначана песня. Верш Янкі Купалы, на які яна напісана, надрукавалі па-японску ды па-англійску, назву прыза — парýску: "Наследство". На жаль, гэта ўсе падрабязнасці, якія мне зараз прыгадваюцца. Ды галоўнае, што адзначана была менавіта песня: вось чаму мы з Віктарам Вуячычам адразу вырашылі падараваць гэты арыгінальны прыз музею паэта, дзе ўзнагарода "Спадчыне" захоўваецца ўжо амаль 30 гадоў.

Сапраўды, песня са шчаслівым лёсам. Яна існуе ў розных аранжыроўках, яе спявала Тамара Раеўская, Аляксандр Краснадубскі, капэла імя Р. Шырмы, хор Белтэлерадыё пад кіраўніцтвам В. Роўды. Вядомы лонданскі беларусіст Г. дэ Пікарда пераклаў "Спадчыну" на англійскую мову, зрабіў уласнае пераладжэнне для хору і прыслаў тыя ноты мне. "Спадчына" сёння ў рэпертуары многіх салістаў-барытонаў і харавых калектываў. Кожны выканаўца ўнёс і ўносіць у вобраз гэтай песні штосьці сваё, таму я ўдзячны ўсім. Але той варыянт, які прапанаваў Уладзімір Мулявін разам з "Песнярамі", лічу лепшым.

Прыгадваецца вось такі светлы і журботны эпізод. У апошні год жыцця Івана Паўлавіча Мележа (з якім былі суседзямі, таму даволі часта сустракаліся ў двары) я пісаў музыку да радыёпастаноўкі "Мінскі напрамак". Думкі былі пра гэтую працу. Але Іван Паўлавіч, якога аднойчы пабачыў ля дома, раптам нагадаў мне пра песню "Спадчына". Нагадаў літаральна такімі словамі: "Калі б вы напісалі толькі адну "Спадчыну", вы засталіся б у гісторыі беларускай культуры". Гэта былі вельмі дарагія словы цудоўнага чалавека, таленавітага пісьменніка, меркаванне якога я вельмі паважаў.

**— Ігар Міхайлавіч, у вас абсалютны музычны слых на вершаваны радок, на паэтычнае слова. Ці можаце растлумачыць, як вы "пачулі" гэту песню?**



— Не. Не магу. Тэксты знаходзяцца нібы выпадкова. Я не разумею, як да мяне прыйшла "Спадчына". Не разумею, як з'явілася "Вераніка" — здаецца, выпадкова напаткаў сярод вершаў Максіма Багдановіча. "Мой родны кут" — неспадзяваны вынік працы над музыкай да радыёпастаноўкі паводле "Новай зямлі" Якуба Коласа...

Дарэчы, свае творчыя вечарыны, сустрэчы са слухачамі я пачынаю зазвычай гэтымі песнямі: "Мой родны кут" і "Спадчына". Хрэстаматыйныя вобразы, дарагія для нас паэтычныя імёны... Надзвычай важна, што ў сёлетнія, нялёгкія, поўныя жыццёвых праблем дні ёсць магчымасць адзначыць юбілеі нашых народных песняроў. Добра, што Міністэрства культуры знайшло сродкі для гэтага. Творчасць і жыццё Янкі Купалы, Якуба Коласа для нас, для Беларусі — святое.

Я часта бываю ў гасцініцы "Масква", дзе засталася загадка трагічнай гібелі Янкі Купалы. Наведваюся на той самы дзевяты паверх. Зноў і зноў задумваюся пра лёс паэта, успамінаю аповеды людзей, якія асабіста ведалі яго, якія грунтоўна вывучалі яго жыццё, творчасць. Хацелася б 120-годдзе Янкі Купалы і Якуба Коласа адзначыць у нашым Саюзе кампазітараў. Мару пра тое, каб увосені наладзіць у зале саюза вечарыну-канцэрт, бо ёсць і адпаведная музыка ў розных жанрах, і выканаўцаў добрых нямала, і пагаварыць будзе пра што...



**— Знайшліся б толькі сродкі на правядзенне такога канцэрта.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: японская ўзнагарода песні "Спадчына"; народныя артысты СССР І. ЛУЧАНОК ды У. МУЛЯВІН у кулуарах маскоўскай канцэртнай залы "Россия".*

*Фота С. ЛУК'ЯНАВА і з архіва "ЛіМа"*

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"



# На хвалях Беларускага радыё

## У ВЯНОК ПЕСНЯРУ

120-гадовы юбілей Янкі Купалы шырока адзначаецца на Першым Нацыянальным канале і канале «Культура» Беларускага радыё. У рамках праекта "Ад роднае зямлі, ад гоману бароў" шточацвер гучаць літаратурныя перадачы, прысвечаныя знамянальнай даце. У прыватнасці, 4 ліпеня Васіль Макарэвіч вёў расповед пра кнігу лірыкі Купалы "Гусляр", а ў папулярнай праграме "Радыёфакт" ідзе шырокае анансаванне юбілейных мерапрыемстваў. Штодзень гучаць вершы Купалы ў выкананні вядучых артыстаў краіны, купалаўскай тэматыцы прысвечаны старонкі праграм "Цытата дня", "Праграма "А", "Сямейнае радыё" і інш.

З першага па сёмае жніўня на канале "Культура" штодзень у ранішнім блоку гучыць публіцыстыка песняра, якая з'яўляецца своеасаблівым эпіграфам да вершаў паэта, што гучаць у цудоўным выкананні Фамы Вараненкага.

І, вядома ж, шырока будуць асвятляцца ўрачыстае пасяджэнне ў Нацыянальным тэатры імя Я. Купалы, Рэспубліканскае свята паэзіі ў Вязынцы, іншыя мерапрыемствы, звязаныя з юбілеем песняра.

Асвятленне юбілейнай тэматыкі не скончыцца гэтымі днямі. Па праграме вышэй згаданага праекта "Ад роднае зямлі, ад гоману бароў" прадугледжана рэгулярнае далучэнне да спадчыны песняроў, практычна штодзённы зварот да гэтай тэмы.

120-гадовы юбілей класікаў роднай літаратуры стаў адпраўной кропкай у высакароднай справе далучэння слухачоў краіны да айчыннай культуры, беларускага слова.

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, галоўны рэдактар Беларускага радыё, каардынатар праекта "Ад роднае зямлі, ад гоману бароў"





ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

**У 1982 годзе ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Алесь ГАЎРОН — *адказны сакратар,*
Уладзімір МАРУК,
Яўген РАГІН,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Віктар ШНІП — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-7985 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва — | 284-8462 |
| фота-карэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |
| Тэл./факс — | 284-7965 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 1640
Нумар падпісаны ў друк 4.07.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12